МІНІСТЭРСТВА ВЫШЭЙШАЙ І СЯРЭДНЯЙ
СПЕЦЫЯЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ БССР
ГОМЕЛЬСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

*ВЫПУСК 7*

МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА БДУ ІМЯ У. І. ЛЕНІНА
1980

ББК 81.2 Бел
Б43

**Зборнік — працяг раней выдадзеных
«Беларуская мова і мовазнаўства», вып. 1—4
і «Беларуская мова», вып. 5—6**



**Беларуская** мова. Вып. 7. /Гомел. дзярж. ун-т;
Б 43 [Рэд. калегія: У. В. Анічэнка (гал. рэд.) і інш.].—
Мн.: Выд-ва БДУ, 1980.—176 с.

У матэрыялах зборніка даследуюцца пытанні беларускага мовазнаўства — сучаснай і гістарычнай лексікалогіі, словаўтварэння, граматыкі і дыялекталогіі.

Як і ў папярэдніх выпусках, друкуюцца «Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны», якія будуць карыснымі для вывучэння багаццяў беларускага дыялектнага арэала, а таксама для даследавання народнай словаўтваральнай сістэмы.

Зборнік прызначаецца навуковым супрацоўнікам-мовазнаўцам, выкладчыкам ВНУ і студэнтам-філолагам.

**Б $\frac{70103-019}{М317-80}$ 61—79 4602000000 ББК 81.2 Бел
4Бел.**

# IV. ЛЕКСІКАГРАФІЯ

М. Ф. ГУЛІЦКІ *(Гомель)*

## БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ТЭРМІНАЛАГІЧНАЯ ЛЕКСІКАГРАФІЯ (20—30-я ГАДЫ)

Лексіка беларускай мовы дасавецкага часу была пераважна звязана з жыццём вёскі, з побытам, працай, культурай і светапоглядам сельскага насельніцтва. Таму аснову беларускага слоўніка складалі словы агульнага ўжытку. Некаторае месца займала і лексіка, якая абазначала абстрактныя паняцці, прывычныя для мовы селяніна. Нязначнымі былі назвы адміністрацыйна-юрыдычнага і палітычнага характару. У пачатку XX стагоддзя пласт грамадска-палітычнай і сацыяльнай лексікі пашыраецца ў выніку ўзмацнення нацыянальна-вызваленчага руху, змен у адміністрацыйна-ўпраўленчым апараце. Істотнае папаўненне беларускай тэрміналогіі ішло ў нашаніўскі перыяд, калі ў актыўны беларускі слоўнік уліліся назвы палітычных партый, плыняў, новых вытворчых працэсаў і адносін у грамадстве. Аднак у дакастрычніцкі час у помніках пісьменства і лексікаграфічных даведніках траплялiся адзінкавыя словы чыста тэрміналагічнага характару.

Пытанне пра неабходнасць стварэння беларускай тэрміналогіі ўзнікла адразу пасля абвяшчэння Беларускай савецкай рэспублікі. У 1919 г. па ініцыятыве «Беларускай школьнай рады» была склікана камісія з мінскіх настаўнікаў, якая ўтварыла некаторыя беларускія тэрміны для пачатковай школы. Гэтыя тэрміны былі надрукаваны ў «Праграмах беларускай пачатковай школы» на 1919/20 навучальны год. Зразумела, што прапанаваная тэрміналогія не магла задаволіць ні ў якасных ні ў колькасных адносінах патрэбы штодзённай практыкі, патрэбы новага грамадскага ладу з яго інтэнсіўным гаспадарчым і культурным будаўніцтвам.

Праца ў галіне беларускай навуковай тэрміналогіі актывізавалася з лютага 1921 г., калі была створана

Навукова-тэрміналагічная камісія пры Навукова-літаратурным аддзеле Народнага камісарыята асветы Беларусі. У склад камісіі ўвайшлі спецыялісты розных профіляў, якія добра ведалі беларускую мову. Камісіі даручалася на працягу трох месяцаў выпрацаваць тэрміналогію па дысцыплінах сярэдняй школы, у першую чаргу па філалогіі, матэматыцы, прыродазнаўству.

У выніку былі падрыхтаваны невялікія тэрміналагічныя слоўнікі, якія публікаваліся ў «Весніку Народнага камісарыята асветы ССРБ» за 1921—1922 гады. Так, слоўнік граматычнай тэрміналогіі ўключаў 307 тэрмінаў, па логіцы — 386, па арыфметыцы — 229, па алгебры — 110 тэрмінаў. Гэта былі мінімальныя слоўнікі, прызначаныя для практычных патрэб школы. Безумоўна, за такі кароткі час, які быў вызначаны для працы, і без дадатковых раней сабраных матэрыялаў скласці больш-менш аб'ёмістыя тэрміналагічныя слоўнікі было немагчыма. Аднак Навукова-тэрміналагічнай камісіяй былі закладзены навуковыя асновы стварэння беларускіх тэрмінаў, укладання тэрміналагічных слоўнікаў. Характэрна, што тэрміны, прапанаваныя камісіяй, у сваёй большасці арганічна ўліліся ў беларускі слоўнік.

Жыццё ўнесла ў працу камісіі свае карэктывы, прымусіўшы пашырыць кола дзейнасці. Імклівае сацыялістычнае будаўніцтва, інтэнсіўная навуковая дзейнасць, пашырэнне выдавецкай справы — усё гэта вымагала распрацоўваць навуковую тэрміналогію больш шырока і поўна. У задачу камісіі ўваходзіла стварэнне тэрміналогіі па геалогіі, мінералогіі, сельскай і лясной гаспадарцы, анатоміі і медыцыне, глебазнаўству і бухгалтэрыі і інш.

У аснову тэрміналогіі былі пакладзены словы, якія мелі пашырэнне ў жывой народнай беларускай мове. Так, у слоўнік «Граматычная тэрміналогія» ўвайшлі назвы і спалучэнні: пытанне, пытальнік, клічнік, будучы час, пабочны сказ, парны лік, коска, двукоссе, якасны, лад (наклонение), акалічнасць, зварот, зваротак, канчатак, злучок і інш. Паводле рэкамендацыі Навукова-тэрміналагічнай камісіі сталі алгебраічнымі тэрмінамі: дадатковы (дополнительный), залежная велічыня, дабываць корань, сапраўднае значэнне, няроўнасць, сумножнік і інш.

Батанічная тэрміналогія таксама ствыралася на ас-

нове народных назваў, пашыраных на Беларусі: *ажына (ежевика), багун (багульник), званец (погремок), вяночак (венчик), вочка спячае (глазок спячий), драўніна (древесина), тлушчы (жиры), гронка (кисть), хмызняк (кустарник), цыбуліна (луковица), глеба (почва), пылок (пыльца), суквеццe (соцветие)* і інш.

Тэмпы навукова-даследчай працы ў рэспубліцы павялічваліся, а дзейнасць асобных устаноў не мела дастатковай каардынацыі і кіраўніцтва. З гэтай мэтай пры Акадэмічным цэнтры Народнага камісарыята асветы ў пачатку 1922 г. быў створан Інстытут беларускай культуры, у падпарадкаванне якога і перайшла Навукова-тэрміналагічная камісія.

За перыяд з 1922 да 1930 года камісія выдала 23 выпускі «Беларускай навуковай тэрміналогіі».

Упарадкаванне тэрміналогіі праходзіла два этапы: 1) калі дзейнасць камісіі скіроўвалася на выяўленне, фіксацыю неабходных паняццяў, тэрмінаў; 2) даводзілася выяўленыя тэрміны ўзважваць, усебакова аналізаваць, адбіраць найлепшыя і рэкамендаваць у навуковы ўжытак. Матэматычная тэрміналогія, напрыклад, пачала ўпарадкоўвацца ў 1921 г. Ф. Більдзюкевічам, Ф. Бураком, А. Круталевічам. За адносна кароткі час быў падрыхтаваны праект тэрміналогіі арыфметыкі, геаметрыі, трыганаметрыі, алгебры, вышэйшай матэматыкі больш як на 2000 тэрмінаў. Тэрміналагічны слоўнік «Элементарная матэматыка», выдадзены ў 1922 г., рэкамендаваў да ўжытку 901 тэрмін. Аднак пасля апублікавання выявілася, што не ўсе рэкамендаваныя тэрміны варты выкарыстання, у прыватнасці, непрыдатнымі аказаліся: *куля (шар), шасцёхсценнік (шестигранник), красленне (черчение), трапез (трапеция), скрутка (спираль), кругадрэз (сегмент), развіненне (развертка)* і інш.

У 1926 г. была створана спецыяльная Матэматычная камісія, якая падала вясною 1927 г. на разгляд праект на 3551 тэрмін. Галоўная тэрміналагічная камісія, членамі якой былі І. Луцэвіч (Янка Купала), К. Міцкевіч (Якуб Колас), з нязначнымі зменамі і папраўкамі зацвердзіла прапанаваны праект, які быў надрукаваны ў выглядзе руска-беларускага слоўніка. У гэтым праекце змяшчалася шмат тэрмінаў, якія прыжыліся ў матэматыцы, але па-ранейшаму трапілі сюды і штучныя, недаў-

гавечныя тэрміны тыпу *закон хібнасцей (закон погрешностей), перавышка (избыток), раўнанне (уравнение), сфэра, гала (шар)* і інш. Так, падапыя ў слоўніку 1922 г. *шасцёхсценнік, трапэз, скрутка, кругадрэз, развіненне, сукоснік, струна* ў выданні 1927 г. замянілі на *шасціграннік, трапецыя, спіраль, сегмент, разгортка, ромб, хорда.* Слоўнік павялічыўся колькасна з 901 да 3550 тэрмінаў. Такая напружаная тэрміналагічная праца вялася па ўсіх галінах навукі. За кароткі час стварыць выключна дасканалыя слоўнікі беларускай навуковай тэрміналогіі было амаль немагчыма. Факты пераконваюць, што галіновыя камісіі актыўна працавалі, вялі творчы пошук, выяўляючы найлепшае, найбольш прыдатнае. Праўда, не заўсёды ён быў удалы, не заўсёды даваў жаданыя вынікі, здаралася, што асуджаны ў першым варыянце тэрмін замяняўся не лепшым. Так, прапанаваныя беларускія эквіваленты *куля, красленне* ў першым слоўніку да рускіх тэрмінаў *шар, черчение* ў выданні «Слоўніка матэматычнай тэрміналогіі» 1927 г. былі заменены недакладнымі, невыразнымі *сфэра, гала* (абодва ў значэнні *шар*), *рысаванне.*

Характэрна, што пры складанні новых праектаў беларускай тэрміналогіі выразна акрэслілася тэндэнцыя замены штучна ўтвораных, няўдалых тэрмінаў інтэрнацыянальнымі назвамі. Так аказаліся заменены змешчаныя ў першым праекце слоўніка тэрміны *валец, канцавоссе, стажок, простастаўная лінія, абвод, кантаслуп* на інтэрнацыянальныя *цыліндр, полюс, конус, перпендыкуляр, перыметр, прызма* і інш.

Праца ў галіне беларускай тэрміналагічнай лексікаграфіі займала асноўнае месца не толькі ў дзейнасці Інстытута беларускай культуры. Ёю захапіліся і асобныя складальнікі, якія па сваёй ініцыятыве ўзялі на сябе абавязак стварыць пэўны слоўнік. Так, Зоська Верас — актыўная дзеячка культурна-асветніцкага руху Заходняй Беларусі — у 1924 г. выдала ў Вільні невялікі (424 тэрміны) «Беларуска-польска-расійска-лацінскі батанічны слоўнік». Л. Вашкевіч надрукаваў у 1926 г. у Магілёве «Расійска-беларускі слоўнічак дзеля чыгуначных мясцкомаў»; у 1926 г. у Мінску выйшаў з друку «Дзелавод» С. Серады; пры ўдзеле Янкі Купалы і Кандрата Крапівы складзены «Практычны беларускі вайсковы слоўнік» (Мінск, 1927).

Даючы агульную ацэнку тэрміналагічным слоўнікам, створаным у 20—30-я гады XX ст., трэба адзначыць, што яны, нягледзячы на іх невялікі памер і шматлікія недахопы, адыгралі станоўчую ролю ў фарміраванні беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі. Змешчаныя ў іх тэрміны ў сваёй аснове захаваліся да нашых дзён і сталі базай для стварэння новых тэрмінаў.

З утварэннем у рэспубліцы Інстытута беларускай культуры дзейнасць у галіне лексікаграфіі стала больш шматграннай. Разам з Навукова-тэрміналагічнай камісіяй пачала працу Камісія для ўкладання слоўніка жывой беларускай мовы. З гэтай мэтай у 1925 г. была выдадзена «Інструкцыя для збірання народнага слоўніка-тэрміналагічнага матэрыялу ў беларускай мове». Частка тэрмінаў, што бытавалі на Беларусі, безумоўна, трапіла ў картатэку слоўніка жывой беларускай мовы, якая да 1930 г. налічвала каля 300 000 картак-слоў. Адносна поўна былі выяўлены тэрміны, якімі вызначалася флора і фауна Беларусі, а таксама адлюстраваны назвы некаторых рамёстваў, промыслаў і сельскагаспадарчай вытворчасці. Тэрміны, якія выкарыстоўваліся ў фабрычна-заводскай вытворчасці, на транспарце — наогул, у гарадской гаспадарцы, не ахапіла картатэка слоўніка жывой беларускай мовы. У сувязі з гэтым Камісія для ўкладання слоўніка жывой беларускай мовы сумесна з Навукова-тэрміналагічнай камісіяй падрыхтавалі новую «Інструкцыю для збірання тэрміналагічнага матэрыялу тэхнічнага характару» (Мінск, 1930). Гэта была новая спроба выяўлення, збірання тэхнічнай тэрміналогіі, якая ўжывалася на Беларусі. Аднак заставалася шмат галін чалавечай дзейнасці, тэрміны якіх не адлюстраваліся ў народнай мове або выявіць было цяжка. Таму камісія разам з пошукамі тэрмінаў у народнай лексіцы шырока карысталася словатворчасцю. На беларускім лексічным матэрыяле, з дапамогай беларускіх словаўтваральных сродкаў выпрацоўваліся тэрміны-неалагізмы па розных галінах навукі. Характэрна, што большасць такіх тэрмінаў трывала ўвайшла ў слоўнікавы састаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы і стала агульнанародным здабыткам: *павойныя расліны, голанасенныя, дзікарослы, ахоўны, пялёстка, спадчыннасць, азіміна, жыўленне, суквецце, кветаножка, хвалісты, узводзіць у квадрат, вярчальны, дзельнік, датычная, магутнасць, адпавед-*

*насць*. Праўда, шматлікія наватворы аказаліся штучнымі і па гэтай прычыне нежыццяздольнымі. Так, у слоўніках «Batанічнай тэрміналогіі» (1922) і «Батаніка агульная і спецыяльная» (1924) зафіксаваны адпаведна 451 і 1828 тэрмінаў, некаторыя з якіх беларуская мова не прыняла. Да рускіх назваў *двудольные, кольцевание, дубильные вещества, ложная ось, микроспора* прапанаваліся, напрыклад, такія эквіваленты: *двулісценевыя, абручкаванне, гарбоўныя матэрыі, нібывось, дробназароднік*.

Найбольш багатай крыніцай узбагачэння беларускай мовы новымі тэрмінамі быў уласны слоўнік народнай мовы. Для ўтварэння новых тэрмінаў выкарыстоўваліся розныя спосабы: 1) падбор з агульнаўжывальнай лексікі слова, за якім замацоўвалася новае або пашыралася ранейшае значэнне; 2) калькаванне, у выніку якога ўтвараўся беларускі тэрмін; 3) апісальны пераклад пэўнага тэрміна; 4) асноваскладанне. Вялікія словаўтваральныя магчымасці, багатыя гістарычныя традыцыі дазволілі нашай мове ўтварыць новыя неабходныя тэрміны на базе ўласнага лексічнага матэрыялу.

Актыўнай крыніцай папаўнення беларускай тэрміналогіі стала іншамоўная і інтэрнацыянальная лексіка. Ёй карысталіся тады, калі для абазначэння паняццяў навукі, культуры, тэхнікі, грамадскіх адносін у беларускай мове не было адпаведных назваў. Разам з тым складальнікі галіновых тэрміналагічных слоўнікаў лічылі мэтазгодным выкарыстанне інтэрнацыянальнай лексікі, характэрнай для братніх славянскіх моў. Безумоўна, значная частка запазычаных тэрмінаў пранікла з рускай мовы, бо яна, па-першае, з'яўляецца блізкароднаснай і высокаразвітай мовай, па-другое, уплыў яе вялікі ў сувязі з пашырэннем на Беларусі білінгвізму. Працэс запазычвання іншамоўных тэрмінаў узмацніўся ў 30-я гады. Гэта абумоўлена ўсім ходам сацыялістычнага будаўніцтва, індустрыялізацыяй краіны, калектывізацыяй сельскагаспадарчай вытворчасці, развіццём розных форм адукацыі, пашырэннем выдавецкай справы. Усе запазычанні з рускай мовы можна ўмоўна падзяліць на дзве групы: а) словы рускага паходжання і б) словы іншамоўнага паходжання, запазычаныя праз пасрэдніцтва рускай.

Запазычаная лексіка ў розных галіновых тэрміналo-

гіях выкарыстоўваецца нераўнамерна. Падлікі паказваюць, што ў батанічнай тэрміналогіі інтэрнацыянальная лексіка складае каля 15%, а ў тэрміналогіі крышталаграфіі, геалогіі і мінералогіі — каля 50%. Тэндэнцыя, якая намецілася ў 30-я гады адносна запазычанняў з рускай мовы, у наступныя гады развіваецца і праяўляецца ў тым, што:

а) больш актыўна калькуюцца выразы і словы, якія адлюстроўваюць сучасныя дасягненні навукі і тэхнікі;

б) асваенне інтэрнацыянальнай лексікі праз пасрэдніцтва рускай мовы больш выразнае;

в) імкліва распаўсюджваюцца ў мове саветызмы;

г) узмацняецца моўная інтэрнацыяналізацыя ў галіне грамадска-палітычнай тэрміналогіі.

Укладальнікі «Беларускай навуковай тэрміналогіі» ставілі мэту задаволіць надзённыя патрэбы культурнага будаўніцтва на Беларусі. Але дасягнулі яе толькі часткова, і іх праца расцэньваецца як спроба стварэння беларускай навуковай тэрміналогіі, якая спрыяла далейшаму разгортванню лексікаграфічнай дзейнасці і стала прыкметнай падзеяй у беларускім мовазнаўстве, у культурным жыцці рэспублікі.

Новы этап у стварэнні беларускай тэрміналогіі і тэрміналагічнай лексікаграфіі пачаўся з сярэдзіны 30-х гадоў XX ст., калі Акадэмія навук Беларускай ССР прыступіла да падрыхтоўкі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Праца разгортвалася хутка, выконвалася на высокім навуковым узроўні. Так, на працягу толькі 1935 г. былі выдадзены праекты энцыклапедычнага слоўніка па наступных навуковых галінах: філасофіі, псіхалогіі, антырэлігійнага аддзела; савецкаму будаўніцтву і праву; сусветнай літаратуры; мовазнаўству; тэатру, музыцы, кіно, выяўленчаму мастацтву; гісторыі Расіі, навейшай гісторыі і палітыцы СССР; гісторыі Беларусі; антрапалогіі, археалогіі, этнаграфіі, міфалогіі; матэматыцы; фізіцы, астраноміі, геадэзіі; геалогіі; анатоміі, медыцыне, фізіялогіі; тэхніцы; сельскай гаспадарцы, торфу; ваеннай справе (усяго 15 выпускаў). Пералічаныя тэматычныя праекты слоўніка для энцыклапедыі нельга атаясамліваць з чыста тэрміналагічнымі галіновымі слоўнікамі. Аднак той факт, што праекты займалі больш за 500 друкаваных аркушаў і кожнае найменне мела рускі адпаведнік — яркае сведчанне таго, што ў справу нармалі-

зацыі беларускай тэрміналогіі быў унесены значны ўклад.

Адначасова з падрыхтоўкай Беларускай Савецкай Энцыклапедыі Інстытутам мовазнаўства створаны «Слоўнік тэхнічнай тэрміналогіі» (1932), у які разам з тэрміналогіяй беларускага паходжання ўвайшла вялікая колькасць інтэрнацыянальнай лексікі: *ацэтымы, вакуум, каталізатар, пульверызатар, электрон* і інш. Пры выданні гэтага слоўніка аўтары прытрымліваліся прынцыпу мінімальных разыходжанняў з тэрміналогіямі славянскіх моў: рускай, украінскай, польскай, чэшскай.

Такім чынам, аналіз «Беларускай навуковай тэрміналогіі», асобна выдадзеных галіновых слоўнікаў, а таксама «Праектаў слоўнікаў» для Беларускай Савецкай Энцыклапедыі дазваляе сцвярджаць, што за адносна кароткі час — за два даваенныя дзесяцігоддзі — беларуская тэрміналагічная лексікаграфія мела выключныя поспехі; яна ўзнялася да такога высокага ўзроўню, што магла абслугоўваць усе сферы народнага жыцця.

## МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА ГОМЕЛЬШЧЫНЫ *

### Р

РАБА′К I *м.* спадніца *(дамотканая)*. Надзень раба′к копаць картоплі (Бярэзнікі, Жытк.); Як несла свінням, дык увесь раба′к замурзала (Грабава, Жытк.).

РАБА′К II *м., заал.* гліст. Мяне сённі ноч мучылі рабакі′ (Навасёлкі, Петр.); У маіх дзяцей у абодвух рабакі′ булі (Баравікі, Светл.); Мабыць, рабакі′ ў мае Ленкі (Клясаў, Петр.) /чарвяк. Во зацягалі каня, і паглядзець няма каму, што рабакі′ раз'ядаюць (Зарэчча, Браг.); Вельмі багато рабако′ў выпоўзвае после дожджыка (Дарашэвічы, Петр.+Ламавічы, Акц.; Прачомышлі, Ельск.; Чалюшчавічы, Петр.).

РАБАКІ′ *толькі мн.* вяснушкі. Рабакі′ ў яе па твару і на руках, мо і на спіне ё (Усох. Буда, Добр.).

---

* Матэрыялы для слоўніка падрыхтавалі Л. І. Злобін і Н. С. Сердзюкова.

РАБА'ТКА *ж.* градка *(вузенькая)*. Насадзіла паўз дарожку цэлую раба'тку цвятоў (Харомцы, Акц.).

РАБАЦЯ'ГА *аг.* працаўнік. Ён жа ў мяне такі рабаця'га, усё сам парабіў (Дубраўка, Добр.+Каменка, Маз.). *Параўн.* рабо'цька (рабо'цько).

РАБАЦЯ'ШЧЫ *прым.* працавіты. Хлопец ён рабаця'шчы (Каравацічы, Рэч.). *Параўн.* рабо'чы.

РАБЕ'НЯ *ж.* карова *(рабая)*. Белую з чорнымі латкамі карову завуць рабе'няй (Бабічы, Чач.).

РА'БЕ'Ц *м., заал.* рабчык. Не папаўсе мне сённі ра'бец (Насовічы, Добр.); Вельмі смачное мясо із рабца' (Дарашэвічы, Петр.).

РАБІ'ЗНА' *ж., толькі адз.* палатно *(даматканае)*. З рабі'зны пашыла пасцілку (Баравое, Лельч.); Трэбо рабізны' наткаць (Клясаў, Петр.).

РАБІ'НАВІК *м., заал.* карась. Рабі'навік — ето такі карась, які нерастуе, калі цвіце рабіна (Азяраны, Раг.).

РАБІ'НАЎКА I *ж., толькі адз.* настойка *(рабінавая)*. Мая ты тайка, у міне ё такая рабі'наўка, што за вушы ні адцягніш (Б.-Крушынаўка, Раг.); Рабі'наўка ад хваробы дапамагае (Забалацце, Раг.+Багданавічы, Карм.; Багуцічы, Ельск.; Гармавічы, Жлоб.; М. Аўцюкі, Калінк.; Насовічы, Добр.; Пагост, Жытк.; Піркі, Браг.; Хізы, Ветк.).

РАБІ'НАЎКА II *ж., заал.* рабіннік. Рабі'наўкі прылетаюць, калі рабіны паспеюць (Бялёў, Жытк.).

РА'БІНКА *ж., бат.* гатунак *(бульбы)*. Ра'бінка — бульба красная, крухмальная (Усох. Буда, Добр.).

РАБІ'ННЫ: рабі'нная ноч — рабінавая ноч. Усю ночку ляскае, ідзе дож — яка рабі'нная ноч (Стадолічы, Лельч.).

РА'БКА *ж.* курыца *(рабая)*. Ра'бка нешта сакоча ў двары (Халочча, Чач.).

РАБО'ВЫ *прым.* рабы, пярэсты. У іх рабо'вая кошка (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* ра'бы *ў 1 знач.*

РАБО'ЦЬКА (рабо'цько) *аг., тое, што* рабаця'га. Ох, які ж у Мар'і зяць рабо'цька (Ломыш, Хойн.); Вот ужэ рабо'цька дык рабо'цька. Ідзі хоць аддахні трохі (Тульгавічы, Хойн.); Маладзіца хороша й рабо'цько (Прудок, Калінк.).

РАБО'ЧЫ *прым., тое, што* рабаця'шчы. Гэта дзеўка рабо'чая (Бялёў, Жытк.).

РАБРО' *н.* 1. *анат.* рабро. І худы ж ты, усе рэ'бры

можна палічыць (Чацвярня, Жлоб.); Ідзі, а то палучыш па рэ′брах! (Багданавічы, Карм.). *Параўн.* рабры′на; 2. *перан.* спіца *(у кошыку)*. Прывёз лазу пазаўчора, дык яна высахла і рэ′бры плоха гнуліся (Кароткавічы, Жлоб.); Рэ′бры ў карзіне, да і ў кошыку тож (Марозавічы, Б.-Каш.); Калі пачынаем кош плесці, то ўстаўляім рэ′бры спярва (Неглюбка, Ветк.+Ламавічы, Акц.).

РАБРЫ′НА *ж., анат., тое, што* рабро *ў 1 знач.* Вунь дохлы, аж рабры′ны пашчытаць можна (Піркі, Браг.); Мой Піліп вунь як упаў тады, дак тры рабры′ны паламаў (Усох. Буда, Добр.).

РАБТУ′ХА *ж.* спадніца *(стракатая)*. Я купіла сабе рабту′ху, а цяпер яна і не наравіцца (Даманавічы, Калінк.).

РАБШЧА′К *м.* сукнавальшчык. Прыязжалі рабшчакі′ палатно валяць (Усох. Буда, Добр.).

РА′БЫ *прым.* 1. *тое, што* рабо′вы. Летась ра′бая карова ў мяне була, а цяпер зменіла (Холмеч, Рэч.); У нас у стадзе буў адзін бычок такі, дык яго і звалі ра′бым (Баравікі, Светл.); У нашым саўхозі многа ра′бых кароў (Піркі, Браг.+Дзям'янкі, Добр.; Кароткавічы, Жлоб.); 2. рознакаляровы. Купіла кусок ра′бага сітцу (Марозавічы, Б.-Каш.); Ра′бае плацце купіла сабе (Забалацце, Раг.); 3. васпаваты, вяснушкаваты. Гэта ён такі ра′бы ад воспы застаўся (Піркі, Браг.); Якая ж яна ра′бая, страшна глядзець на яе (Халочча, Чач.); *Параўн.* руды′ *ў 1 знач.;* 4. хмарны. Зноў зранку неба ра′бае, нельзя вам будзе і пазагараць (Бабовічы, Гом.).

РАВЕ′Ц (рове′ц) *м.* равок. Кідаем картоплі ў рове′ц (Верасніца, Жытк.).

РАГАВІ′К *м.* клінок *(для адціскання сыру)*. З етага вот куска і рагаві′к пашыю (Кавака, Браг.). *Параўн.* рукаво′к.

РАГАЗА′ *ж., толькі адз., бат.* рагоз. Рагаза′ расце ў балоце (Дубраўка, Добр.); Ішла во ды рагазы′ трохі нашчыпала (Піркі, Браг.); Рагазу′ мячэўнікам завуць (Марозавічы, Б.-Каш.); Я на тройцу заўсёды рагазу′ на вокны стаўлю (Гармавічы, Жлоб.); Цыбулю на рагазу′ цапляюць (Пярэдзелка, Лоеўск.). *Параўн.* раго′жа II.

РАГА′К *м., толькі адз., бат.* спарынння. Рагаку′ цяпер мо няма, колісь буў. Убытку ад яго багата — тожа ж месца займае (Баравікі, Светл.); Каторы раз у жыші ба-

гата чорнага рагаку′ (Чарнейкі, Рэч.). *Параўн.* ражо′к I.

РАГА′ЛІК *м. заал.* жук-рагач. Рага′лік з большымі вусамі, шчыпліцца (Сівенка, Ветк.); Вунь па дарозе рага′лік папоўз (Ямпаль, Рэч.); Рага′лікі пад палом водзяцца (Халочча, Чач.).

РАГАЛІ′СЦІК (рогалі′сцік) *м., бат.* рагаліснік. Рагалі′сціку шось ня відна ля ёлкі, а боляй я ня шукала (Р. Бурыцкая, Лоеўск.); Рогалі′сціку ніхто не рве, бо ето не цветы, вон росце пустозвоном (Падворак, Лельч.).

РАГАЛО′ВЫ *прым.* лахматы. Вунь якая рагало′вая пашла (Піркі, Браг.). *Параўн.* расама′ты, раскудэ′хтаны, распе′йсаны.

РАГА′ТКА I *ж.* карова *(рагатая).* Ганніна рага′тка падхапіла была ўчора на рогі дзяўчынку (Карчовае, Хойн.+Бялёў, Жытк.; Хізы, Ветк.). *Параўн.* рагу′ля.

РАГА′ТКА (рога′тка) II *ж.* сажань. Ідзе брыгадзір з рога′ткою — померае (Астражанна, Лельч.). *Параўн.* рагу′лька *ў 2 знач.*

РАГА′ЦІНА *ж.* 1. рагаціна *(на звера).* Я ўжо паставіў рага′ціны (Стаўбун, Ветк.); Рага′ціны бываюць і з трох сукоў, усякія бываюць. Раней з рага′цінамі хадзілі на ахоту на мядзведзя (Хізы, Ветк.). /палка *(сукаватая).* Насячы рага′цін — галіны на зямлю леглі, падперці трэба (Гармавічы, Жлоб.); 2. вілы *(драўляныя).* Колісь рага′ціны ў хаду былі, а цяпер усё новае (Восаў, Светл.); Сена і салому змешуюць у нас рукамі, а не рага′цінамі (Ст. Буда, Б.-Каш.). *Параўн.* рага′ч *у 4 знач.*

РАГА′Ч *м.* 1. вілкі *(кухонныя).* Вазьмі рага′ч ды пастаў у печ гаршок (Буйнавічы, Маз.); Не бегайце, а то рагача′ схваціце (Церахоўка, Добр.); *Параўн.* рагачы′; 2. відэлец. Памый, Маня, рага′ч і лыжку, дай бацьку есці (Буйнавічы, Маз.). *Параўн.* ро′жкі *ў 2 знач.;* 3. матавіла. Пражу трэба зматываць на рага′ч і сушыць потым (Неглюбка, Ветк.); Рага′ч у нас дзеравяны (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* ро′жкі *ў 1 знач.;* 4. *тое, што* рага′ціна *ў 2 знач.* Пашукай рагача′ да паварушы сена (Чкалава, Гом.).

РАГАЧЫ′ *толькі мн., тое, што* рага′ч *у 1 знач.* Вазьмі рагачы′ да пастаў казан у печ (Бобрыкі, Петр.); Дай мне свае рагачы′ (Камаровічы, Петр.); Рагачы′ пастаў на места (Стараселле, Добр.).

РАГО′ЖА I *ж.* мата. Вокны запінаюць раго′жай. Сплеце на зіму і запінае (Піркі, Браг.).

РАГО′ЖА II *ж., толькі адз., бат., тое, што* рагаза′. Раго′жа вмесці з бабоўнікам росце (Падварак, Лельч.).

РАГО′ТКА *ж.* шышка *(хваёвая).* На раго′тку ногу проколола. На хвоі так багато раго′ток (Мірнае, Лельч.).

РАГО′ЎЦЫ *толькі мн.* жыхары *(канца вёскі).* Дзярэўня была маленькая, яны на самым канцы жылі, на рагу, вот і раго′ўцы (Баравікі, Светл.).

РАГУ′ЛЬКА *ж.* 1. *рыб.* прылада *(рыбалоўная).* Рагу′лькай таксама ловяць рыбу (Піркі, Браг.); 2. *тое, што* рага′тка II. Рагу′льку возьме і пайшла мераць (Горваль, Рэч.).

РАГУ′ЛЬКІ *толькі мн.* граблі. Зноў свое рагу′лькі поломала (Сялюцічы, Петр.).

РАГУ′ЛЯ *ж., перан., тое, што* рага′тка I. Мая рагу′ля білася ў стадзі (Забалоцце, Раг.); Вунь і мая рагу′ля ідзе з пашы (Навінкі, Калінк.); Ні давядзі бог, калі хто пападзе маёй рагу′лі на вочы (Б. Крушынаўка, Раг.+Бялёў, Жытк.; Забалоцце, Б.-Каш.; Марозавічы, Патапаўка, Б.-Каш.; Сівенка, Ветк.; Ст. Дуброва, Акц.).

РАД *м.* 1. пракос. Я накасіў тры ряды′ (Астрагляды, Браг.); Далі палосу можа дзесяць радо′ў (Пагоннае, Хойн.). *Парайн.* ру̌чка II; 2. пропуск *(пры касьбе).* Ты аставіў вялікія рады′ (Багданавічы, Карм.).

РАДАБО′ДДЗЕ *н., зборн.* 1. тканіна *(рэдкая).* Такое радабо′ддзе, а плацце пашыць можна (Задуб'е, Раг.). /палатно *(даматканае, грубае).* Вуткала нейкага радабо′ддзя, хіба мо мех пашыя (Даманавічы, Калінк.). *Парайн.* радабо′ць; 2. лахманы. У яго ж была ня адзежа, а радабо′ддзе адно (Быч, Карм.).

РАДАБО′ДЗІНА *аг., перан., груб.* чалавек *(неахайны).* Ета не чалавек, а радабо′дзіна нейкая, вечно гразны ходзіць (Быч, Карм.).

РАДАБО′ЦЬ *м., тое, што* радабо′ддзе *ў 1 знач.* Зноў радабо′ць удаўся (Бабовічы, Гом.).

РАДА′К (рэда′к) *м., рыб.* сетка *(рыбалоўная).* Поехалі ловіць рэдако′м рыбу (Баклань, Петр.).

РА′ДАНЕЦ *м., рэл.* радаўніца. На ра′данец ідуць на могілкі, памінаюць радзіцялей (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* радзі′цельскі дзень.

РА′ДАЎКА *ж., бат.* грыб. Чамусьці ра′давак ні від-

на, трэба, штоб ужэ раслі (Даманавічы, Калінк.). *Парайн.* радо′ўка I.

РА′ДАЎНІЦА *ж.* вясёлка. Мы як малые былі, дак усегда ра′даўніцу стараліcь дагнаць (Парэчча, Акц.).

РА′ДАШНЫ: ра′дашная нядзеля *рэл.* тыдзень *(пасля вялікадня)*. Сёлета павінна быць цёплая ра′дашная нядзеля (Зенькавіна, Карм.). *Парайн.* ра′дунішны.

РАДЗІ′ЛЬНЯ *ж.* радзільны дом. Дар'ю адвезлі ў радзі′льню (М. Аўцюкі, Калінк.+Ламавічы, Акц.; Хутар, Светл.).

РАДЗІ′МЕЦ *м.* чорт. Ты скажы, які радзі′мец (Быч, Карм.); Каб цябе радзі′мцы забілі, дзяругу праклятую (Палессе, Чач.+Барталамееўка, Ветк.; Саўгасная, Б.-Каш.).

РАДЗІ′МЫ: 1. радзі′мы дзень — дзень нараджэння. Жыву тут з радзі′мага дня (Аравічы, Хойн.); 2. радзі′ма болезнь *мед.* эпілепсія. Радзі′ма болезнь — ето прыпадошна болезнь. Вулечваецца толькі шэптамі (Стадолічы, Лельч.).

РАДЗІ′НА *ж., зборн.* радня. Іванава радзі′на мёд, віно п'ець, а Верына радзі′на слёзкі льець (Касцюкоўка, Гом.).

РАДЗІ′ХА *ж.* парадзіха. Трудна было радзі′хі раней, у дзікрэці не была (Дубраўка, Добр.+Беразнякі, Петр.; Гарывада, Рэч.; Ламавічы, Акц.). *Парайн.* раду′ха, ро′жаніца.

РАДЗІ′ЦЕЛІ *толькі мн., рэл.* дзяды. На радзі′целі на стале ставяць тоўсты блін з соллю, каб яны прыйшлі і нас не забывалі (Касцюкоўка, Гом.+Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* ро′дзічы.

РАДЗІ′ЦЕЛЬСКІ: радзі′цельскі дзень *рэл., тое, што* ра′данец. На радзі′цельскі дзень памінаюць мяртвых (Стадолічы, Лельч.).

РАДЗЬКО′ЎКА *ж., зборн., бат.* свірэпа. Радзько′ўка цвіце жоўтым такім цветам (Піркі, Браг.). *Парайн.* радзько′ўнік.

РАДЗЬКО′ЎНІК *м., зборн., бат., тое, што* радзько′ўка. Много дужо радзько′ўніку ў нас расце на бураках і на картоплях, як цвіце, то аж жоўто (Чалюшчавічы, Петр.).

РАДЗЮ′ГА *ж.* 1. посцілка *(саматканая)*. Сёння мама прадала радзю′гу (Холмеч, Рэч.); Радзю′гу пуда дно на караваць пасцелеш, на сяльніка, а тады партную

посцілку выбеленую (Юравічы, Калінк.). *Параўн.* радня′нка; 2. *перан.* капялюш (*саламяны*). Твая радзю′га так паможаць, як мне ахвота балець (Вышамір, Рэч.).

РАДЗЮ′ЖКА *ж., памянш. да* радзю′га *ў 1 знач.* Суседка выткала прыгожую радзю′жку (Антонаў, Ельск.); Нову радзю′жку заслала на ложак (Будкі, Нар.).

РАДНЯ′НКА *ж., тое, што* радзю′га *ў 1 знач.* Поўну шухляду наткала радня′нок. У мене аж п'яць радня′нок (Зімавая Буда, Маз.).

РАДО′ЎКА I *ж., бат., тое, што* ра′даўка. Радо′ўка як рыжык, толькі розавенькая (Бялёў, Жытк.); Радо′ўкі ж папарэзаныя такія, радкамі. Таму і называюць іх радо′ўкамі (Ліпнякі, Лоеўск.); Растуць да позняй восені радо′ўкі (Баравікі, Светл.); Радо′ўкі крэпенькія грыбы, увосень пракідаюцца (Холмеч, Рэч.+Дубраўка, Добр.; Неглюбка, Ветк.; Піркі, Браг.; Хізы, Ветк.).

РАДО′ЎКА II *ж.* чарга. Пойдзеш у лаўку, а там у радо′ўцы стаяць трэба (Васілевічы, Рэч.).

РА′ДУНІШНЫ: ра′дунішная нядзеля *рэл., тое, што* ра′дашны. У ра′дунішную нядзелю на могілках была (Багданавічы, Карм.); Ра′дунішная нядзеля гавораць у нас. Радуніца на етай нядзелі (Ліпнякі, Лоеўск.).

РАДУ′ХА *ж., тое, што* радзі′ха. Радзіла дзіця — раду′ха (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* ро′жаніца.

РАЁЎКА *ж.* раёўня. Рой аграбаюць у раёўку (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* раяўня′, рэ′ўня.

РА′ЖА I *ж.* кубел. Як парсюка заколем, то ўсё: і сало, і мясо, і ногі, і голаў — кладзём у ра′жу (Лабыроўка, Карм.).

РА′ЖА II *ж.* дзёран. На той ра′жы спіну папагнеш, калі хочаш да толку давесці (Р. Антонаўская, Калінк.). *Параўн.* рэжа, рэжык.

РА′ЖАЎКА *ж., рыб.* сетка (*рыбалоўная*). Ра′жаўка мая парвалась, нада новая (Каранёўка, Гом.). *Параўн.* ражо′ўка, рыжо′ўка.

РА′ЖКА *ж.* 1. ражка. Так ухадзілася, пакуль ра′жку адна вынесла (Крыўск, Б.-Каш.); От добрая свіння ўдалася, цэлую ра′жку цеста вуедае (Калінічы, Нар.+Антонаў, Ельск.; Асарэвічы, Браг.; Бярэзнікі, Жытк.; Горваль, Рэч.; Загор'е, Чач.; Заходы, Лельч.; Копань, Рэч.; Крыўск, Б.-Каш.; Ляскавічы, Петр.; Неглюбка, Ветк.; Прыбыткі, Гом.; Стараселле, Добр.; Хобнае, Калінк.);

2. *перан., груб.* галава. У іго ра′жка добрая (Амельна, Раг.).

РАЖНО′ *аг., груб.* чалавек *(няўклюдны)*. Во ражно′ якоясь, стаў пасярод хаты, што прайціць нельзя (Барталамееўка, Ветк.).

РАЖО′К I *м., бат., тое, што* рага′к. У маём жыці так багата ражко′ў (Бывалькі, Рэч.); Збірай ражкі′ ў каробачку (Неглюбка, Ветк.+Асарэвічы, Астрагляды, Браг.; Бялёў, Жытк.; Марозавічы, Б.-Каш.; Насовічы, Добр.; Пагоннае, Хойн.; Піркі, Браг.; Стаўбун, Ветк.; Юравічы, Калінк.).

РАЖО′К II *м.* сурвэтка. Таня, павешай ражкі′ на дыван (Хутар, Светл.).

РАЖО′К III *м., спец.* ручка *(рубанка)*. Зламаўся ражо′к у рубанку (Забалоцце, Раг.); Адламаўся ражо′к, і пагано стружыць стало (Засінцы, Ельск.).

РАЖО′К IV *м., муз.* ражок. Бувала, усё на ражка′х пастушкі выігрывалі (Баравікі, Светл.).

РАЖО′К V *м., астр.* маладзік. Ужэ паказаўсе ражо′к (Званец, Раг.).

РАЖО′ЎКА *ж., рыб., тое, што* ра′жаўка. Ражо′ўкай добра лавіць, толькі месца знаць трэба. У ражо′ўцы тры палатна, пасерэдзіне меленькая сетка, а по боках вочкамі (Аравічы, Хойн.+Замошша, Лельч.). *Парайн.* рыжо′ўка.

РАЗА′К I *м., бат.* разак. Калі ідзеш па балоце, то ногі рэжа раза′к (Пагост, Жытк.); Во як пайду ў бабоўнік, дык усе пальцы аб раза′к парэжу (Гармавічы, Жлоб.+Бялёў, Жытк.; Марозавічы, Б.-Каш.; Парэдзелка, Лоеўск.; Холмеч, Рэч.). *Парайн.* раза′чка I, рэ′знік I.

РАЗА′К II *м.* 1. сякач. У мяне быў раза′к, а цяпер я сяку бульбу лапатай (Дубраўка, Добр.); 2. сякера. Захваці ў лес свой раза′к (Навасёлкі, Петр.); 3. нажоўка. Цётка Ганна сабе нарэзала дроў разако′м, а му сабе не вубярэмся (Антонаў, Ельск.).

РАЗА′К III *м., толькі адз.* галалёдзіца. Ну і раза′к сегонні, не вуйдзеш на вуліцу (Лісная, Лельч.).

РАЗАПСЕ′ЦЬ *зак.* разбэсціцца. Ну й разапсе′ў твой Іван, нікога не слухае (Зарэчча, Браг.). *Парайн.* разбязу′ляць.

РАЗАРЫ′ЦЦА *зак.* пагоршыцца. Як матка памерла, дык і жызнь мая разары′лась (Усох. Буда, Добр.).

РАЗАХО′ЦІЦЦА *зак.* страціць *(ахвоту)*. Скора ты

разахо′ціўся работаць. Утаміўся, ці што? (Быч, Карм.).

РАЗА′ЧКА I *ж., бат., тое, што* раза′к I. Раза′чкай руку разрэзаў (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* рэ′знік I.

РАЗА′ЧКА II *ж., мед.* дызентэрыя. Мой дзядзька памёр ад раза′чкі (Углы, Ельск.). *Параўн.* разу′нка.

РАЗБАЗУ′ЛІЦЬ *зак.* раскарміць. Разбазу′ліў карову, нічого есці не хочэ, толькі давай ёй клевер (Стадолічы, Лельч.).

РАЗБАРСА′ЦЬ *зак.* выцягнуць *(вяроўку з лапця)*. Разбарса′ў мне другого лапця (Пясчанікі, Жытк.).

РАЗБА′СЛІЦЬ *зак.* разгаласіць, разбалабоніць. А я разба′сліла, росказала ўсё, як было (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* раззвані′ць, растрапа′ць, раструбі′ць.

РАЗБО′РЫСТА (разбо′рысто) *прысл.* разборліва. Погледзі, як Надзя разбо′рысто пішэ, хоць і малая (Скалодзін, Маз.).

РАЗБУ′ДРЫЦЬ *зак.* разбэсціць. Разбу′дрыла сына, дак на голаву лезе (Гарадзец, Раг.). *Параўн.* распатво′рыць.

РАЗБУКАЦЕ′ЦЬ *зак.* растаўсцець. Маладая я худая була, а цяпер разбукаце′ла (Усох. Буда, Добр.). *Параўн.* распра′віцца, распу′хнуць.

РАЗБУ′РХАЦЬ *зак.* разгубіць. Я ўсё так разбу′рхала, што нічога ня знайду зараз (Быч, Карм.).

РАЗБУРЫ′ЦЦА *зак., перан.* нарадзіць. Мая суседка ўжо разбуры′лася, дзевачка ў яе (Дубраўка, Добр.).

РАЗБУРЫ′ЦЬ *зак.* 1. раскідаць. Разбуры′ла весь дом, новы строіць будуць (Багданавічы, Карм.); 2. распусціць *(звязанае)*. Разбуры′ла старую кохту (Забалацце, Раг.); 3. паблытаць. Вот разбуры′ла ўсе ніткі, а што цяпер рабіць? (Кароткавічы, Жлоб.).

РАЗБУ′ЦЦА *зак.* разуцца. Памажы мне разбу′цца (Сяўкі, Лоеўск.).

РАЗБЫ′РАЦЬ *зак.* рассваволіцца. Ну, ты ўжо і разбы′раў (Нова-Мазолеў, Жлоб.).

РАЗБЯЗУ′ЛЯЦЬ *зак., тое, што* разапсе′ць. Так ужо разбязу′ляў — робіць шкоду штодня і слова не кажы (Грушаўка, Добр.+Усох. Буда, Добр.).

РАЗВАДЗЯ′ГА *м.* мужчына *(разводны)*. Каму ён нада, той развадзя′га, ён жа вечны п'яніца (Краўцоўка, Гом.+Баравікі, Светл.; Ч. Буда, Добр.; Юркевічы, Жытк.). *Параўн.* развадзя′ка, развадны′, разве′дзенец,

разво′дзец, разво′днік, разво′дчык, разжэ′н, разлуча′нец, разлу′чнік II, разлучэ′нец, распуска′нец.

РАЗВАДЗЯ′КА *м., тое, што* развадзя′га. Развадзя′ка, развадны — усё адно, у нас так і так гавораць (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* развадны′, разве′дзенец, разво′дзец, разво′днік, разво′дчык, разжэ′н, разлуча′нец, разлу′чнік II, разлучэ′нец, распуска′нец.

РАЗВАДНА′Я *ж.* жанчына *(разводная)*. Сын жаніўся на развадно′й і жывуць добра (Краўцоўка, Гом.+Ваявода, Гом.; Кавака, Браг.; Усох. Буда, Добр.). *Параўн.* разваду′ха, разве′дзенка, разво′дка II, разво′дніца, развядзё′нка, разжэ′нка, разлуча′нка, разлу′чніца, разлучэ′нка, распуска′нка.

РАЗВАДНЫ′ *м., тое, што* развадзя′га. Дачка ўжэ год, як з развадны′м сышлася (Краўцоўка, Гом.+Ваявода, Гом.; Кавака, Браг.; Усох. Буда, Добр.; Чацвярня, Жлоб.). *Параўн.* развадзя′ка, разве′дзенец, разво′дзец, разво′днік, разво′дчык, разжэ′н, разлуча′нец, разлу′чнік II, разлучэ′нец, распуска′нец.

РАЗВАДУ′ХА *ж., тое, што* развадна′я. Еслі развадзу′ха пагаравала, дык яе адстояць (Баравікі, Светл.). *Параўн.* разве′дзенка, разво′дка II, разво′дніца, развядзё′нка, разжэ′нка, разлуча′нка, разлу′чніца, разлучэ′нка, распуска′нка.

РАЗВАЖА′ЦЕЛЬНЫ (развaжы′цельны) *прым.* разважлівы. Мой унук такі разважа′цельны (Забалоцце, Раг.); Разважы′цельны чалавек любое гора разважа, рассудзе (Дубраўка, Добр.).

РАЗВА′ЛЫ *толькі мн.* развалкі. Прычапі разва′лы, мо сена дзе прыхвацім (Юравічы, Калінк.). *Параўн.* ро′спускі.

РАЗВА′РАНКА *ж.* бульба *(сопкая)*. Разва′ранка добра бульба (Аравічы, Хойн.).

РАЗВАРО′ТКА (розворо′тка) *ж., спец.* 1. інструмент *(для адгіну зубоў у піле)*. Розворо′тка нейдзі дзеласа. Ніхто не бачуў? (Людзяневічы, Жытк.). *Параўн.* разво′дка I *у 1 знач.*, разворо′шка; 2. развод *(зубоў у піле)*. Каб не было развaро′ткі, то пілу б зажымало (Багуцічы, Ельск.). *Параўн.* разво′дка I *у 2 знач.*

РАЗВА′РЫСТЫ *прым.* сопкі. Сёлета такая бульба разва′рыстая (Бабовічы, Гом.+Дзям'янкі, Добр.; Неглюбка, Ветк.).

РАЗВАЯВА′ЦЦА *зак., груб.* разбушавацца. П'яны як

разваю′еца, з хаты ўсіх на вуліцу выганяе (Ч. Маяк, Гом.).

РАЗВЕ′ДЗЕНЕЦ *м., тое, што* развадзя′га. І што ты сабе думала, ён жа разве′дзенец (Чацвярня, Жлоб.). *Парайн.* развадзя′ка, развадны′, разво′дзец, разво′днік, разво′дчык, разжэ′н, разлуча′нец, разлу′чнік II, разлучэ′нец, распуска′нец.

РАЗВЕ′ДЗЕНКА *ж., тое, што* развадна′я. Яна ж у нас разве′дзенка, сама й жыве (Чацвярня, Жлоб.). *Парайн.* развconfigure развaду′ха, разво′дка II, разво′дніца, развядзё′нка, разжэ′нка, разлуча′нка, разлу′чніца, разлучэ′нка, распуска′нка.

РАЗВЕ′ЗАЦЬ *зак.* размазаць. Ні памула, а толькі гразь разве′зала па хаце (Пясчанікі, Жытк.+Заспа, Рэч.).

РАЗВІ′ДНІВАЦЬ *незак.* днець, світаць. Бабанькі, ужо развіʼдніваць пачынае, уставайце (Хальч, Гом.).

РАЗВІ′ЛКА *ж.* 1. ростань. Пойдзем да развіʼлкі, мо машына папутная будзе (Баравікі, Светл.+Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* раскрэ′сы, растанцы′, растанькі′, расто′кі, ро′стані; 2. разгалінаванне. Бач, сколькі развіʼлак на дзераве, карчом расце (Кароткавічы, Жлоб.+Баравікі, Светл.; Ручаёўка, Лоеўск.).

РАЗВІТНЫ′ *прым.* развіты. Ен такі развітны′, разумны (Баравікі, Светл.).

РАЗВО′ДЗЕЦ *м., тое, што* развадзя′га. Вунь Клім тожэ разво′дзец (Аравічы, Хойн.). *Парайн.* развадзя′ка, развадны′, разве′дзенец, разво′днік, разво′дчык, разжэ′н, разлуча′нец, разлу′чнік II, разлучэ′нец, распуска′нец.

РАЗВО′ДКА I *ж., спец.* 1. *тое, што* развaро′тка (розворо′тка) *у 1 знач.* Добрую разво′дку для пілы зрабіў у кузні (Засінцы, Ельск.); Ні кажны і з разво′дкай здзелая добры развод (Сyткоў, Лоеўск.+Асарэвічы, Браг.; Бялёў, Жытк.; Забалацце, Раг.; Хізы, Ветк.). *Парайн.* разворо′шка; 2. *тое, што* разворо′тка (развсро′тка) *у 2 знач.* У піле разво′дка невялікая (Піркі, Браг.+Халоччa, Чач.).

РАЗВО′ДКА II *ж., тое, што* развадна′я. Я разво′дак не судзіла і судзіць не буду (Дубраўка, Добр.+Аравічы, Хойн.; Ч. Буда, Добр.). *Парайн.* развaду′ха, разве′дзенка, разво′дніца, развядзё′нка, разжэ′нка, разлуча′нка, разлу′чніца, разлучэ′нка, распуска′нка.

РАЗВО′ДНІК *м., тое, што* развадзя′га. Сцёпка з разво′днікам Антонам паехалі па гліну (Брынёў, Петр.+Бабовічы, Гом.). *Парайн.* развадзя′ка, развадны′, разве′дзенец, разво′дзец, разво′дчык, разжэ′н, разлуча′нец, разлу′чнік II, разлучэ′нец, распуска′нец.

РАЗВО′ДНІЦА *ж., тое, што* развадна′я. Разво′дніца ў тым не вінаватая (Бабовічы, Гом.). А якая ж разво′дніца не хоча добра жыць? (Брынёў, Петр.+Бялёў, Жытк.; Кавака, Браг.). *Парайн.* развяду′ха, разве′дзенка, разво′дка II, развядзё′нка, разжэ′нка, разлуча′нка, разлу′чніца, разлучэ′нка, распуска′нка.

РАЗВО′ДЧЫК *м., тое, што* развадзя′га. Як яе чалавек памёр, то яна зноў замуж вуйшла, праўда, за разво′дчыка (Каменка, Маз.). *Парайн.* развадзя′ка, развадны′, разве′дзенец, разво′дзец, разво′днік, разжэ′н, разлуча′нец, разлу′чнік II, разлучэ′нец, распуска′нец.

РАЗВОРО′ШКА *ж., тое, што* разво′дка I *у 1 знач.* Возьмі разворо′шку да зрабі разворот пілы (Дарашэвічы, Петр.). *Парайн.* разваро′тка (розворотка) *у 1 знач.*

РАЗВЯДЗЁНКА *ж., тое, што* развадна′я. Ён такі маладзенькі, а яна развядзёнка, дый старэй яго на багата (Краўцоўка, Гом.). *Парайн.* развяду′ха, разве′дзенка, разво′дка II, разво′дніца, разжэ′нка, разлуча′нка, разлу′чніца, разлучэ′нка, распуска′нка.

РАЗГАВО′РСТЫ *прым.* гаваркі. Жынка ў яго разгаво′рстая (Усох. Буда, Добр.). *Парайн.* разгаво′рчысты.

РАЗГАВО′РЧЫСТЫ *прым., тое, што* разгаво′рсты. У нас Вольга вельмі разгаво′рчыста (Хізы, Ветк.+Усох. Буда, Добр.).

РАЗГА′МІЦЦА *зак.* разгледзецца. Паляжалі трохі, тады ўжо разга′міліся, пашлі (Палессе, Чач.).

РАЗГАНЯ′ЧКА (розганя′чка) *ж., с.-г.* акучнік. Трэба ўзяць розганя′чку і разогнаць картоплі (Верасніца, Жытк.). *Парайн.* распа′шка.

РАЗГА′РТАВАЦЬ *незак.* расчышчаць. Бяруць людзей і снег разга′ртуюць (Быч, Карм.).

РАЗГО′Н *м.* мужчына *(блудны)*. Вон разго′н ідзе. Разго′н той, што сям'ю разганяе (Забалоцце, Раг.).

РАЗГО′НКА *ж., толькі адз., с.-г.* разорванне. Разго′нку робяць, зямля рыхлейшай становіцца (Стаўбун, Ветк.).

РАЗГО′РАЦЬ *зак.* расстарацца. Разго′рала сабе якнебудзь жыта (Навасёлкі, Петр.).

РАЗГРЭ'БАЦЬ *зак., перан.* разабраць, давесці да канца. Не, дзядзько, гэтае дзела яны разгрэ'баюць, так не пакінуць (Бялёў, Жытк.).

РАЗДАЖДЖЫ'ЦЦА *зак.* зарадзіць *(пра дождж)*. Ну, эта раздажджы'лася ўжэ на ўсю нядзелю (Баравікі, Светл.+Багданавічы, Карм.; Забалоцце, Раг.; Івакі, Добр.; Кароткавічы, Жлоб.; Лучын, Раг.; Насовічы, Добр.; Палессе, Чач.; Янава, Ветк.). *Парайн.* разняго'дзіцца.

РАЗДВО' *н., толькі адз., рэл.* каляды. На раздво' стаялі такія марозы, што і носа на вуліцу не паказвалі (Запясочча, Жытк.+Багданавічы, Карм.; Баравое, Лельч.; Стаўбун, Ветк.).

РАЗДЗЕРБА'НІЦЬ *зак.* падзяліць. Паміж сынамі раздзерба'нь усё і ні будзя рупіць табе (Амельна, Раг.+Багушы, Браг.).

РАЗДЗЯВА'ЛКА *ж.* прылазнік, раздзявальня. Не, у нас не кажуць прыбаннік, у нас раздзява'лка. Павесь у раздзява'лцы ўсё сваё (Баравікі, Светл.+Бывалькі, Рэч.; Дубраўка, Добр.; Кавака, Браг.).

РАЗДУ'РБАЦЦА *зак.* прачнуцца, прабудзіцца. Пока разду'рбаўса, то ўсе ўжэ пошлі (Тураў, Жытк.).

РАЗДЫМА'ЦЦА *незак.* заканчвацца. І толькі перад раннем свадзьба раздыма'ецца (Усох. Буда, Добр.).

РАЗЕВА'ТЫ *прым.* рассеяны. Дзеўкі мае такія ж разева'тыя, што не дам рады (Піркі, Браг.).

РАЗ'Е'ЗДЖАНЫ *дзеепрым.* разбіты *(пра дарогу)*. Да кароўніка ўсягды раз'е'зджаная дарога (Баравікі, Светл.).

РАЗ'ЁРЗАЦЬ *зак.* пакамячыць, скомкаць. Ну, во табе, раз'ёрзалі караваць, ціпер зноў засцілаць нада (Пакалюбічы, Гом.).

РАЗЖЭ'Н *м., тое, што* развадзя'га. Разжэ'н не хаціць з адной жыць, к другой хочэ (Неглюбка, Ветк.+Любань, Б.-Каш.). *Парайн.* развадзя'ка, развадны', разве'дзенец, разво'дзец, разво'днік, разво'дчык, разлуча'нец, разлу'чнік II, разлучэ'нец, распуска'нец.

РАЗЖЭ'НКА *ж., тое, што* развадна'я. Раней разжэ'нка была прапашчая жанчына (Любань, Б.-Каш.+Быч, Карм.; Неглюбка, Ветк.; Шылавічы, Чач.). *Парайн.* развяду'ха, разве'дзенка, разво'дка II, разво'дніца, разлуча'нка, развядзёнка, разлу'чніца, разлучэ'нка, распуска'нка.

РАЗЗВАНІ'ЦЬ *зак. тое, што* разба'сліць. Па ўсіх хатах ужэ раззвані'ла, балбатуха (Целяшы, Гом.). *Парайн.* растрапа'ць, раструбі'ць.

РАЗЗЫ'КАЦЬ *зак.* распазычыць. Ці паверыш мне, пуд сала раззы'кала (Палессе, Чач.).

РАЗЗЮ'КАЦЦА *зак.* разгаварыцца. Бач, як выпіў гарэлкі, дык і раззю'каўся (Баравікі, Светл.).

РАЗЛЕ'ЯЦЬ *зак.* разліць. Гладыш малака разле'яла (Лукі, Жлоб.).

РАЗЛІ'ВА *ж., толькі адз.* разліў. Прошлы год у час разлі'вы ў нас не було як прайсці (Заспа, Рэч.).

РАЗЛІВА'ЛКА *ж.* апалонік *(разлівальная лыжка)*. Падай разліва'лку, будам боршч разліваць (Савічы, Браг.).

РАЗЛУПЛЯ'ЦЬ *незак.* разрываць. Валерык надзене штаны, дзве недзелі паносіць і разлупля'е (Ручаёўка, Лоеўск.).

РАЗЛУЧА'НЕЦ *м., тое, што* развадзя'га. Я, дзетка, сам разлуча'нец (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* развадзя'ка, развадны', разве'дзенец, разво'дзец, разво'днік, разво'дчык, разжэ'н, разлу'чнік II, разлучэ'нец, распуска'нец.

РАЗЛУЧА'НКА *ж., тое, што* развадна'я. Яна ж разлуча'нка, у Гомлі пальто прыймае ў растаране (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* развяду'ха, разве'дзенка, разво'дка II, разво'дніца, развядзёнка, разжэ'нка, разлу'чніца, разлучэ'нка, распуска'нка.

РАЗЛУ'ЧНІК I *м.* прылада *(у ткацкім станку)*. Мо разлу'чнік пагано прыкрэплены, бо панажы ўместа з'язджаюцца (Ліпляны, Лельч.+В. Поле, Петр.; Нісімкавічы, Чач.; Піркі, Браг.; Старажоўцы, Жытк.).

РАЗЛУ'ЧНІК II *м., тое, што* развадзя'га. Гэты разлу'чнік так і бегае за дзеўкамі (Перароў, Жытк.); Яна прыняла разлу'чніка з другой дзярэўні і жыве з ім (Заспа, Рэч.+Багданавічы, Карм.; Кароткавічы, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; Прудок, Калінк.). *Парайн.* развадзя'ка, развадны', разве'дзенец, разво'дзец, разво'днік, разво'дчык, разжэ'н, разлуча'нец, разлучэ'нец, распуска'нец.

РАЗЛУ'ЧНІЦА *ж., тое, што* развадна'я. Валікава разлу'чніца сабіраецца ўязджаць з дзярэўні (Кароткавічы, Жлоб.+Багданавічы, Карм.; Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* развяду'ха, разве'дзенка, разво'дка II, разво'д-

ніца, развядзёнка, разжэ′нка, разлуча′нка, разлучэ′нка, распуска′нка.

РАЗЛУЧЭ′НЕЦ *м., тое, што* развадзя′га. А ён жа разлучэ′нец, дзевак хоча шчэ праважаць (Броніца, Б.-Каш.). *Парайн.* развадзя′ка, развадны′, разве′дзенец, разво′дзец, разво′днік, разво′дчык, разжэ′н, разлуча′нец, разлу′чнік II, распуска′нец.

РАЗЛУЧЭ′НКА *ж., тое, што* развадна′я. Васіль такі харошы хлопец, а з разлучэ′нкай ажаніўся (Броніца, Б.-Каш.). *Парайн.* разваду′ха, разве′дзенка, разво′дка II, разво′дніца, развядзёнка, разжэ′нка, разлуча′нка, разлу′чніца, распуска′нка.

РАЗЛЯТА′Й *м.* безрукаўка. Так добра табе, Манечка, у разлята′і (Крупка, Маз.). *Парайн.* разлята′йка.

РАЗЛЯТА′ЙКА *ж., тое, што* разлята′й. А ў Мартачкі разлята′йка цёплая-цёплая (Запясочнае, Маз.).

РАЗМАВІ′ТЫ *прым.* разнастайны. Размаві′тыя песні пелі ўсяка (Баравікі, Светл.).

РАЗМАЗНЯ′ *аг., зневаж.* няўклюда. Ну й размазня′ ж ты, утрымаць не мог дзверы (Саўгасная, Б.-Каш.).

РАЗМАСЦІ′ЦЬ *зак.* разбіць. Зайшлі ў хату цёмначы і сем талерак размасці′лі (Парэчча, Акц.). *Парайн.* расчарэ′паць.

РАЗМО′ЛЬШЧЫК *м.* памольшчык. Размо′льшчыку было трудна работаць (Неглюбка, Ветк.+Баравікі, Светл.; Марозавічы, Б.-Каш.; Юравічы, Калінк.).

РАЗМЯРЭ′ЖКА *ж.* мярэжка. Размярэ′жка ў мяне добра палучаецца (Халочча, Чач.).

РАЗМЯРЭ′ЖЫЦЬ *зак.* зрабіць *(мярэжку)*. Размярэ′жыла салфетку ў той жа дзень (Халочча, Чач.).

РАЗНІ′ЦА *ж.* бойня. Як карова якая здоіцца, у разні′цу вядзем (Быч, Карм.).

РАЗНО′СЧЫК *м.* паштальён. Толькі тым і жыву, што чакаю кожны дзень разно′счыка (Хальч, Гом.).

РАЗНЮХО′ЎВАЦЬ *незак., перан.* разузнаваць. І такі спрытны хлопец. Заўсёды ўсё першы разнюхо′ўвае (Аравічы, Хойн.).

РАЗНЯГО′ДЗІЦЦА *зак., тое, што* раздажджы′цца. Во табе дык разняго′дзілася, кожны дзень дождж (Палессе, Чач.); Зноў разнего′дзілосо, не вуйдзеш на вуліцу (Стадолічы, Лельч.+Марозавічы, Б.-Каш.).

РАЗНЯХА′ЯЦЬ *зак.* адгаварыць. Не паехала таго ж, што разняха′ялі (Палессе, Чач.).

РАЗРАЗНІ′ЦЬ *зак.* разлучыць. Мы ў плен разам трапілі, ды разразні′лі нас (Пясчанікі, Жытк.+Гарадзец, Раг.; Заспа, Рэч.).

РАЗРЫВА′ЦЬ *незак., с.-г.* прарэджваць. Разрыва′ем усякую расліну, якая густая, і перасаджваем (Аравічы, Хойн.); Разрыва′лі на градзе моркву (Сямёнаўка, Рэч.+Пабеда, Ветк.).

РАЗУМЕ′Ц *м., іран.* разумнік. Бач, разуме′ц знайшоўся (Крыўск, Б.-Каш.+Гарадзец, Раг.; Вышалаўка, Петр.). *Параўн.* разумо′к.

РАЗУМО′К *м., тое, што* разуме′ц. Малому майму другі год, а разумо′к такі, што проста дзіва (Іскра, Чач.).

РАЗУ′Н (рэзу′н) *м., мед.* рэзь *(у жываце)*. Такі рэзу′н у жываце, што не знаю, што рабіць (Стадолічы, Лельч.).

РАЗУ′НКА *ж., мед., тое, што* раза′чка II. У нас колісь казалі: разу′нка хваціць і памірае (Ламавічы, Акц.).

РАЗЫ′МЧАВЫ *прым.* жаласлівы, тужлівы. Сенька завёў нейкія разы′мчавыя песні, што плакаць хочыцца (Крыўск, Раг.).

РАЗЯВЕ′НЯ *аг.* разявака. Што ты такая стала разяве′ня? (Н. Гута, Гом.).

РАЗЯ′ВІЦЬ *зак.* раскрыць *(рот)*. Чаго рот па вушы разя′віў? (Бабовічы, Гом.).

РАЗЯЎЛЯ′ЦЬ *незак.* раскрываць *(рот)*. Ну, чаго ты рот разяўля′еш? (Холмеч, Рэч.).

РАЗ'Я′ШЧЫЦЬ *зак.* расчыніць *(дзверы)*. Чаго ты раз'я′шчыў дзверы, заходзь у хату (Нова-Кузнечнае, Лоеўск.); Раз'я′шчыў сенцы, січас жа зачыні, холаду напусціш (Пакалюбічы, Гом.).

РА′ЙКА *ж.* садавіна *(накшталт яблыкаў)*. Еты год варыла з ра′як варэння, дак добра зімой елі (Р. Бурыцкая, Лоеўск.).

РАК I *м., мед.* рак. Не прывядзі бог захварэць ра′кам (Забалоцце, Раг.); Раз ужо ён захварэў ра′кам, то наўрад ці ачуняе (Халочча, Чач.). /хвароба *(дрэў)*. Рак дрэва калі случыцца, дык сокаў зусім няма (Баравікі, Светл.); Калі дрэва хварэе ра′кам, чарната паяўляецца і дрэва высыхае (Піркі, Браг.).

РАК II *м., заал.* рак. Ра′каў ловяць у нас рукамі (Багданавічы, Карм.).

РАК III *м.* шпянёк *(у жорнах)*. Рак у верхнім каме-

ні ўздзяваўся на шпянёк ніжняга камня (Стаўбун, Ветк.).

РА′КАВІНА *ж.* 1 *заал.* ракавіна *(малюска)*. П'яўкі жывуць у ра′кавінах (Холмеч, Рэч.); 2. выемка *(між капытоў у парнакапытных)*. Як выцягнулі камень з ра′кавіны, дык карова і храмаць перастала (Бабовічы, Гом.+Дзям'янкі, Добр.; Неглюбка, Ветк.; Холмеч, Рэч.; Хізы, Ветк.).

РА′КАВЫ: ра′кавая картопля, гатунак *(бульбы)*. Ра′кавая картопля была як яечня жоўтая, але яна шчарвела, дык звялі цвяточкі (Баравікі, Светл.+М. Аўцюкі, Калінк.).

РА′КАЎКА *ж., толькі адз., тое, што* ра′кавая картопля. Трэба папрасіць у старуй хоць кашыль ра′каўкі (Пучын, Браг.).

РАКІ′ЦІНА *ж., бат.* ракіта. Будзеш ісці лугам, зрэж ракі′ціну (Неглюбка, Ветк.).

РА′КУШКА *ж.* ракавінка. Мая ўнучка аб ра′кушку нагу парэзала (Бабовічы, Гом.+Кароткавічы, Жлоб.; М. Аўцюкі, Калінк.; Хізы, Ветк.; Ямпаль, Рэч.).

РА′ЛА *н.* ствол *(раздвоены)*. С таго ра′ла лоўкія вілы будуць (Р. Антонаўская, Калінк.).

РАЛАВА′ТЫ *прым.* галінасты. Ралава′тае тут расце дзераво (Ламавічы, Акц.).

РАЛІ′ЦЬ *незак., с.-г.* араць *(канец загона ўпоперак)*. Канчай ралі′ць дый абедаць будзем (Бабовічы, Гом.).

РАЛЛЁ *н., толькі адз.* ралля. Хто-то ўжо сцежку праклаў па свежаму раллю′ (Ліцвінавічы, Карм.).

РА′МАВІК *м.* вулей *(рамачны)*. У саду маём е пяць ра′мавікоў. У трох е пчолы, а ў двух ету зіму пропалі (Заходы, Рэч.). *Парайн.* рамо′вачнік, рамча′к.

РА′МАЦЬ *незак.* стукаць. Годзі ты ра′маў у дзверы (Макарычы, Петр.).

РАМЗА′ЦЬ *незак., груб.* смяяцца. Рэ′мжуць, як тыя коні (Апанасаўка, Гом.+Каменка, Маз.).

РАМЁНЫ *толькі мн.* швы *(плечавыя)*. Цяпер застрачым рамёны на машыне і сарочка гатова (Усох. Буда, Добр.).

РАМНЁВЫ *прым.* раменны. Рамнёвыя гужы ў хамуце (Бялёў, Жытк.).

РАМО′ВАЧНІК *м., тое, што* ра′мавік. Пчол пасадзілі ў рамо′вачнік (Астрагляды, Браг.+Багуцічы, Ельск.). *Парайн.* рамча′к.

РАМО'ЎКА *ж., толькі адз.* пасынкаванне. Правялі рамо'ўку хмелю (Харомцы, Акц.).

РАМЧА'К *м., тое, што* ра'мавік. Бачыў ля луга чыйсьці рамча'к стаіць (Н. Дуброва, Акц.). *Парайн.* рамо'вачнік.

РАМЯ'НКА *ж.* вяроўка *(раменная).* Рамя'нка пахожа на пераплецены длінны і вузкі рамень (Баравікі, Светл.).

РАМЯНЦЫ' *толькі мн.* крапленні *(лыжныя).* Прыкруці добра рамянцы', а то пагубіш лыжы (Ручаёўка, Лоеўск.).

РА'НДАЛЬ *м.* рандэляк *(каструля).* У ра'ндалі мёд наліваем, масло на зіму кладзем (Лабыроўка, Карм.).

РА'ННІК *м., толькі адз., бат.* паўночнік. Ра'ннік у лесе расце, у его шырокіе лісты, і балбушкі на ім сінім цветам цвітуць (Ручаёўка, Лоеўск.+Буда Сафіеўская, Лельч.; Бялёў, Жытк.).

РА'НЧЫК *м.* бінт. Дай хутчэй ра'нчык, моцна кроў цячэ (Буйнавічы, Маз.+Запясочнае, Маз.). *Парайн.* рэ'дчык.

РА'НЬШАЙ *прысл.* раней. У дзерэўні кіно ра'ньшай дзівом було (Піркі, Браг.).

РАПА' (ропа') *ж., толькі адз.* расол *(у мясе).* М'ясо ў ропе' лежыць і не пахне (Стадолічы, Лельч.).

РАПЕ'ШНІК *м., толькі адз., бат.* лопух. Корань з рапе'шніку ад рамацізму помогае (Дубраўка, Добр.); На рапе'шніку вурасце кукса такая да паспее, пройдзеш леее, дак ена ўся за цебе наберэцца (Ручаёўка, Лоеўск.+Аравічы, Хойн.; Р. Бурыцкая, Лоеўск.; Холмеч, Рэч.; Юравічы, Калінк.). *Парайн.* рэ'пашнык.

РАПУ'ХА *ж.* 1. *заал.* жаба *(палявая).* Ну і рапу'ха была пад мастом (Забалоцце, Раг.); Першы раз бачу такую рапу'ху вялікую (Рабкор, Акц.+Багуцічы, Ельск.; Баравікі, Светл.; Бялёў, Жытк.; Кіцін, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; М. Аўцюкі, Калінк.; Ямпаль, Рэч.); 2. *перан., зневаж.* жанчына *(неахайная).* Гледзець на цебе брыдко, рапу'ха ты, хоць бу трохі за сабою гледзела (Каменка, Маз.). *Парайн.* ро'хля, рэ'пша, рэ'ра.

РАСАМА'ТЫ *прым., тое, што* рагало'вы. Расама'того таго злавеце (Турок, Петр.). *Парайн.* раскудэ'хтаны, распе'йсаны.

РАСКАВЕ'РКАЦЬ *зак.* пары'ць. Выпусціла кабана,

а ён уцёк на гарод, усе грады раскаве′ркаў (Пакалюбічы, Гом.).

РАСКАЛАЦІ′ЦЬ *зак.* растрэсці. Пойду раскалачу′ сена (Гармавічы, Жлоб.); На полі раскалаці′ў гной (Ламавічы, Акц.).

РАСКАПУ′СЦІЦЦА *зак.* 1. разрасціся. А ў мяне, бабанькі, сад раскапу′сціўся да самай да далоўкі, а гіч бульбяны таксама вырас велічэзны (Хальч, Гом.); 2. *перан.* рассесціся. Раскапу′сціўся, заняў столькі месца, што прайсці нельга (Грушаўка, Добр.+Р. Бурыцкая, Лоеўск.).

РАСКА′РЧВАЦЬ *незак.* раскарчоўваць. Такіе трактары е, што раска′рчваюць (Холмеч, Рэч.).

РАСКВА′СІЦЦА *зак., перан.* сапсавацца. Дарога саўсім раскава′сілася (Баравікі, Светл.). *Параўн.* расхля′бнуць, ру′хнуць.

РАСКІДА′ЛЬНІЦА *ж.* жанчына *(якая раскідае гной).* Нашы раскіда′льніцы пашлі (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* раскіда′ньшчыца.

РАСКІДА′НЬШЧЫЦА *ж., тое, што* раскіда′льніца. Раскіда′ньшчыцы растрахуюць гной (Неглюбка, Ветк.).

РАСКІ′ДАЦЦА *зак., перан.* ацяліцца. Карова шчэ не раскі′далася (Славань, Светл.).

РАСКІДУ′ХА *ж.* жанчына *(неашчадная).* У маёй раскіду′хі ніяк капейка не задзержыцца (Гарадзец, Раг.).

РАСКІ′НУЦЬ *зак., перан.* размяніць. Раскі′нь мне грошы (Быч, Карм.).

РАСКО′Л *м., перан.* гарэза, свавольнік. Павел у цябе такі раско′л расце, што далей некуды (Крыўск, Б.-Каш.).

РАСКРАЖАВА′ЦЬ (раскрыжава′ць) *зак.* распілаваць. Мы кажэм раскражава′ць доскі (Пярэдзелка, Лоеўск.); Пара ўжэ раскрыжава′ць доскі (Баравікі, Светл.).

РАСКРАЖО′ЎКА (раскрыжо′ўка) *ж.* распілоўка. Усю нядзелю працаваў на раскражо′ўцы (Кароткавічы, Жлоб.); Колі колоды пойдуць на дровы, раскрыжо′ўку робяць на козлах (Бялёў, Жытк.+Баравікі, Светл.; Дубраўка, Добр.; Забалоцце, Раг.; Людзяневічы, Жытк.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Хізы, Ветк.).

РАСКРЭ′СЫ *толькі мн., тое, што* разві′лка *ў 1 знач.*

Сустрэў яго на раскрэ′сах (Узоў, Ветк.). *Параўн.* расстанцы′, растанькі′, расто′кі, ро′стані.

РАСКУДЗЕ′ЛЬВАЦЦА *незак., перан.* расцвітаць. Стрэлка цыбулі раскудзе′льваецца (Дубраўка, Добр.).

РАСКУДЭ′ХТАНЫ *прым., тое, што* рагало′вы. Чаго яна прыбегла раскудэ′хтана? Мабуць ён яе сягоння біў (Антонаў, Ельск). *Параўн.* расама′ты, распе′йсаны.

РАСКУ′ШТАЦЦА *зак.* расклекатацца. Бач ты іх, раску′шталісь як буслы (Неглюбка, Ветк.).

РАСКУШЧЭ′ННЕ *н., толькі адз.* разгалінаванне. Сітнік расце без ніякога раскушчэ′ння, ідзе гладкі дубец (Аравічы, Хойн.).

РА′СНЫ *прым.* 1. кусцісты. Така картопля ра′сна, не знаю, як будзе под корчом (Мілашэвічы, Лельч.); Памідоры такіе ра′сные залетась булі (Піркі, Браг.); 2. пышны. Дзяўчаты ходзяць у ра′сных спадніцах (Антонаў, Ельск.).

РАСО′ХА *ж.* палка *(у ткацкім станку, да якой прымацоўваюцца чапёлкі)*. Да расо′хі крэпяцца кацёлкі (Старажоўцы, Жытк.).

РАСПАКРЫ′ТЫ *прым.* праставалосы. Распакры′тая маці вышла сына страчаці (Салтанаўка, Б.-Каш.).

РАСПАЛАХА′ЦЬ *зак.* разарваць. Распалаха′ў штаны, што ні зашыць (Грушаўка, Добр.).

РАСПАРЭ′Х *м.* 1. прарэх, шырынка. Ня рэж вялікі распарэ′х (Р. Бурыцкая, Лоеўск.); Штаны пашыла без распарэ′ха, смех адзін (Бялёў, Жытк.+Асарэвічы, Браг.; Баравікі, Светл.; Рафалаў, Браг.; Р. Марымонава, Гом.); 2. дзірка. А дзе ето ты такі распарэ′х у штанах зрабіў? (Аравічы, Хойн.).

РАСПАТВО′РЫЦЬ *зак., тое, што* разбу′дрыць. Каб жа вы не распатво′рылі яго, дык было б добра, а так радуйцеся (Грушаўка, Добр.+Пакалюбічы, Ч. Маяк, Гом.).

РАСПАШКА *ж., с.-г. тое, што* разганя′чка. Няма сваёй распа′шкі, пайду папрашу ў саседа, а то конь жа стаіць (Хізы, Ветк.+Астрагляды, Браг.; Бабовічы, Гом.; Дубраўка, Добр.; Жмураўка, Рэч.; Пучын, Браг.; Сямёнаўка, Рэч.; Узоў, Ветк.; Чкалава, Гом.).

РАСПЕ′ЙСАНЫ *прым., тое, што* рагало′вы. Села за стол, распе′йсаная (Белы Пераезд, Петр.). *Параўн.* расама′ты, раскудэ′хтаны.

РАСПІСАВА′ЦЬ *зак.* спаласаваць (*рагамі*). Еты

чорны бык вельмі страшно распісаваʹў маладзенького (Пясчанікі, Жытк.).

РАСПІЛОʹВАНЫ *дзеепрым.* распілаваны. Машынай забралі распілоʹваны лес (Ч. Буда, Добр.).

РАСПІʹСАНЫ *дзеепрым.* зарэгістраваны *(у шлюбе).* Цэлы месяц ён распіʹсаны (Халочча, Чач.+Багданавічы Карм.; Гарывада, Рэч.; Дуброва, Петр.; Хізы, Ветк.).

РАСПІСАʹЦЦА *зак.* зарэгістравацъ *(шлюб).* Гадоў тры жылі па сабе, ні разам. А навесне сышлісе, пашлі й распісаʹлісе (Прудок, Калінк.+Халочча, Чач.).

РАСПЛОʹД I *м., толькі адз.* развод. На расплоʹд астаўляюць самых харошых цялят (Марозавічы, Б.-Каш.).

РАСПЛОʹД II *м., толькі адз., с.-г.* вуза, пропаліс. Ета рамка з расплоʹдам (Сямёнаўка, Рэч.).

РАСПОʹРА *ж., буд.* распорка. На балкі, што броўны распіраюць, распоʹры гавораць (Баравікі, Светл.). *Парайн.* распоʹрыч.

РАСПОʹРЫЧ *м., буд., тое, што* распоʹра. У мяне на чардаку вунь два распоʹрычы стаіць (Кароткавічы, Жлоб.+Майскае, Жлоб.).

РАСПРАʹВІЦЦА *зак., тое, што* разбукацеʹць. О, як распраʹвіўся наш Васіль! (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* распуʹхнуць.

РАСПУʹКВАЦЦА *незак.* распускацца. Дзерава вясной хараша распуʹкваецца (Дарашэвічы, Петр.).

РАСПУКНУʹЦЦА *зак.* распусціцца. Люблю, калі дрэвы ў садзе распукнуʹцца (Хальч., Гом.); Мая роза і зімой распукнуʹлася (Крыўск, Б.-Каш.).

РАСПУСКАʹНЕЦ *м., тое, што* развадзяʹга. Яны ж, каторыя разойдуцца да ідуць к другой, дак у нас распускаʹнцамі завуцца (Асарэвічы, Браг.). *Парайн.* развадзяʹка, развадныʹ, развеʹдзенец, развоʹдзец, развоʹднік, развоʹдчык, разжэʹн, разлучаʹнец, разлуʹчнік II, разлучэʹнец.

РАСПУСКАʹНКА *ж., тое, што* разваднаʹя. Хто йдзе к другому, распускаʹнкамі ў нас завуць (Асарэвічы, Браг.). *Парайн.* развадуʹха, развеʹдзенка, развоʹдка II, развоʹдніца, развядзёнка, разжэʹнка, разлучаʹнка, разлуʹчніца, разлучэʹнка.

РАСПУʹСЦІЦА *ж., толькі адз.* бездараж, бездарожжа. От распуʹсціца на дварэ, а снегу мало было (Парэчча, Акц.). *Парайн.* распуʹцце, растароʹп, расхляʹбіца.

РАСПУ′ХНУЦЬ *зак., перан., тое, што* разбукаце′ць. Як пабыў на курорце, дык так распу′х, што людзі не пазналі (Дарашэвічы, Петр.). *Парайн.* распра′віцца.

РАСПУ′ЦЦЕ *н., толькі адз., тое, што* распу′сціца. Распу′цце, канём не праедзеш там (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* растаро′п, расхля′біца.

РАСПУШЧА′НЕЦ *м.* мнагажэнец. Етый жа распушча′нец зноў жэніцца (Кавака, Браг.).

РАСПЯКА′ЦЬ *незак.* выводзіць *(з цярпення)*. Не распяка′й мяне сварыцца з табою (Халочча, Чач.).

РАСПЯ′ЦЦА *зак.* засланіць *(святло)*. Распя′ўся, як стаяк, і свет загарадзіў (Усох. Буда, Добр.).

РАССО′ЛЬВАЦЬ *незак.* саліць. Боліць крэпко жывот, соду піў, ваду рассо′львалі (Бялёў, Жытк.).

РАССЫ′ПЧАСТЫ *прым.* рассыпісты. Пячэнне прывезлі да нас добрае, рассы′пчастае (Ламавічы, Акц.).

РАСТАЛМА′ЧЫЦЬ *зак.* растлумачыць. Як ня стараўся расталма′чыць, ня паняў ніяк (Быч, Карм.).

РАСТАНЦЫ′ *толькі мн., тое, што* разві′лка *ў 1 знач.* Сказаў знахар на растанцо′х кінуць вузялок з краснай ніткай (Астрагляды, Браг.); У лесе ўсе дарогі на растанцо′х, хто не знае леса, то можа заблудзіцца (Хізы, Ветк.+Гарывада, Рэч.; Кароткавічы, Жлоб.; Ламавічы, Акц.; Махнавічы, Маз.; Палянкі, Добр.). *Парайн.* раскрэ′сы, растанькі′, расто′кі, ро′стані.

РАСТАНЬКІ′ *толькі мн., тое, што* разві′лка *ў 1 знач.* У селе баяліся страчацца, дак на растанькі′ бегалі (Холмеч, Рэч.+Бабовічы, Гом.). *Парайн.* раскрэ′сы, растанцы′, расто′кі, ро′стані.

РАСТАРАПІ′ЦЬ *зак.* прыгатаваць. Я зелле свінням растарапі′ла (Піркі, Браг.).

РАСТАРО′П *м., тое, што* распу′сціца. Такі ўжэ растаро′п на вуліцы, ні прайці, ні праехаць (Парэчча, Акц.). *Парайн.* распу′цце, расхля′біца.

РАСТВО′РЧАТЫ *прым.* створкавы. У нас і раство′рчатыя дзверы і наборныя (Усох. Буда, Добр.).

РАСТО′КІ *толькі мн., тое, што* разві′лка *ў 1 знач.* Вунь му ўгэ на расто′кі пуд'ежджаем, скора дома будзем (Бялёў, Жытк.+Асавец, Маз.). *Парайн.* раскрэ′сы, растанцы′, растанькі′, ро′стані.

РАСТРАПА′ЦЬ *зак., тое, што* разба′сліць. Ты ж растрэ′піш усё ды яшчэ прыбавіш (Ч. Маяк, Гом.). *Парайн.* раззвані′ць, раструбі′ць.

РАСТРУБІ′ЦЬ *зак., тое, што* разба′сліць. Раструбі′лі па ўсёй дзярэўні, ані слова праўды (Ч. Маяк, Гом.). *Парайн.* раззвані′ць, растрапа′ць.

РАСТРУ′СЫВАЦЬ *незак.* растрасаць. Растру′сываць гной цяжка (Багданавічы, Карм.). *Парайн.* растру′хіваць.

РАСТРУ′ХІВАЦЬ *незак., тое, што* растру′сываць. Гной с куч віламі растру′хівалі (Халочча, Чач.).

РАСТУ′КАЦЦА *зак.* разабрацца. Не расту′каўшысь сышлісь, а тады — давай разойдземся (Быч, Карм.).

РАСТУ′РКАЦЬ *зак.* разбудзіць. Расту′ркай старога, хай ідзе кароў даглядае (Слабада, Маз.). *Парайн.* расшу′рхаць.

РАСТУ′ЧЫ *дзеепрым.* кусцісты. Зерне расту′чае, густа не сей (Капараўка, Рэч.).

РАСХАДЗІ′ЦЦА *зак.* паправіцца. Ціха памешаўсь Іван, думалі, расхо′дзіцца (Баравікі, Светл.).

РАСХЛЯ′БІЦА *ж., толькі адз., тое, што* распу′сціца. На дварэ такая расхля′біца, што ня вылязеш (Зарэчча, Браг.). *Парайн.* распу′цце, растаро′п.

РАСХЛЯ′БНУЦЬ *зак., тое, што* расква′сіцца. Аўтобус не прышоў, расхля′бла на дарогах (Гарадзец, Раг.). *Парайн.* ру′хнуць.

РАСХО′ДАЦЬ *зак.* знішчыць. Радных яе немец расхо′даў (Быч, Карм.).

РАСЦЕ′РЦІ *зак., перан.* раз'ездзіць. Машыны так расце′рлі дарогу, што і пешкам не прайсці (Піркі, Браг.).

РАСЦІ′РКА *ж., толькі адз., мед.* лякарства *(для расціраня)*. Узяла расці′ркі і пайду расціраціа (Дубраўка, Добр.).

РАСЦЯГА′НКА *ж.* хустка *(тонкая, шарсцяная)*. Ты ж у горадзі жывеш, няўжэ там добрай расцяга′нкі нельга купіць? (Дзяражычы, Лоеўск.).

РАСЦЯРО′Б *м.* 1. церабленне. Пасля расцяро′бу лес бувае чысты, светлы, хмызу німа (Аравічы, Хойн.); 2. паляна *(пасля церablення)*. Пойдам на расцяро′б па ягады? (Бывалькі, Рэч.); А на расцяро′бах жа і косім мы сабе, а з лугу сена ідзе ў калхоз (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* расцяро′ба, расцяро′блік.

РАСЦЯРО′БА *ж., тое, што* расцяро′б *у 2 знач.* На месцы расцяро′бы калосіцца жыта (Чкалава, Гом.). *Парайн.* расцяро′блік.

РАСЦЯРО′БЛІК *м., тое, што* расцяро′б *у 2 знач.*

У нас ня лес, зараснік. Расцяро′блік рэдка ўстрэціш (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* расцяро′ба.

РАСЧАРЭ′ПАЦЬ *зак., тое, што* размасці′ць. Так ты ўсю пасуду расчарэ′паяш сённі (Быч, Карм.).

РАСЧЫНІ′ЦЬ (рашчыні′ць) *зак., кул.* замясіць *(цеста)*. Расчыні′ла бліны на ноч (Неглюбка, Ветк.); Хлеб трэба рашчыні′ць вечарам, каб ноччу яно пераработала (Марозавічы, Б.-Каш.).

РАСШКУМАТА′ЦЬ *зак.* разарваць *(на часткі)*. Сабака за ноч расшкумата′ў вяроўку (Нова-Кузнечнае, Лоеўск.).

РАСШУ′РХАЦЬ *зак., тое, што* расту′ркаць. Так ужэ спаў, што ледзьві расшу′рхала яго (Каменка, Маз.).

РАСШЫ′ЎКА I *ж., спец.* расшыральнік. Расшы′ўку вышай прыбі (Забалоцце, Раг.); Здзелаў быў расшы′ўку, дак загубілась калісь (Халочча, Чач.); Прыбіваюцца расшы′ўкі на кожную крокву (Хізы, Ветк.+Кароткавічы, Жлоб.; Неглюбка, Ветк.; Суткоў, Лоеўск.; Ч. Буда, Добр.).

РАСШЫ′ЎКА II *ж.* прошва. Расшы′ўку ў скацерку зрабіла (Нісімкавічы, Чач.); А мне ж шчэ трэба расшы′ўкі етыя паўшываць (Кавака, Браг.+Кароткавічы, Жлоб.; Насовічы, Добр.). *Параўн.* рашэ′ўка, ро′сшэўка.

РАСШЫ′ЦЬ *зак., спец.* умацаваць *(планкай)*. Расшы′ў сцяну, а то палена выткнулася (Суткоў, Лоеўск.); Расшы′ць бы нада, да рукі ніяк не даходзяць (Халочча, Чач.+Забалоцце, Раг.; Кароткавічы, Жлоб.; М. Аўцюкі, Калінк.; Піркі, Браг.; Ч. Буда, Добр.).

РАТА′Й *м., уст.* араты. Прыбегла да хаты, наказала таму рата′ю, што араць, дай пабегла зноў (Капцэвічы, Петр.).

РАТА′ТЫ *прым.* крыклівы, нахабны. І чаго ето Васіль такі рата′ты? Нікого не прапусціць уперад, каб толькі ён усюды ўспеў (Нароўля).

РАЎНІНА′ *ж.* раўніна. Такая раўніна′, усё расце (Усох. Буда, Добр.).

РАЎЧА′ЦЬ *незак.* мяўкаць. Коты роўча′ць, бы дзеці плачуць (Бялёў, Жытк.).

РАХАВІ′ТЫ *прым.* рухавы. О, каб ён быў рахаві′ты, як яго бацька (Усох. Буда, Добр.).

РАХЛІ′СКО *н.* тронак *(у вілах)*. Трэбо рахлі′ско зрабіць ново, бо ето дужа цяжко (Гогалеў, Калінк.).

РАХМА′НІЦА *ж., толькі адз.* сываратка. У калідоры

стаіць поўная кадушка рахма′ніцы (Навасёлкі, Хойн.).

РАХУ′БА *ж., толькі адз.* выгада. Вон без раху′бы на таку работу не пойдзе, ето не такі чалавек (Капцэвічы, Петр.).

РАХУ′НАК *м., толькі адз.* лад, парадак. Пакапалі ж бульбу, да хоць ба ёй які раху′нак даць (Чаплін, Добр.).

РАЧКАВА′ЦЬ *незак.* працаваць *(цяжка)*. Гэта ж ідзі, рачку′й, рачку′й, затое толк е (Бялёў, Жытк.).

РАЧКА′ТЫ *прым.* вірлавокі. Погледзі, екі рачка′ты, аж гледзець страшно (Буда Сафіеўская, Лельч.).

РАЧЭ′ЎНЯ *ж.* прылада *(для лоўлі ракаў)*. Рачэ′ўняй у нас рэдка пользуюцца, усё рукамі ловяць ракаў (Піркі, Браг.).

РА′ЧЫЦЬ *незак.* жадаць. Хто мне тое ра′чыць, хай на сабе пабачыць (Р. Антонаўская, Калінк.).

РАШАТНІ′К *м.* прыстасаванне *(для затрымання маткі ў вуллі)*. Трэ було б з рання рашатні′к паставіць (Н. Дуброва, Акц.).

РАШАЦЮ′К *м., бат.* махавік *(грыб)*. У нас не ўмеюць гатаваць рашацюкі′ ў страву (Баравое, Лельч.). *Параўн.* рашо′тнік, рашо′цік, рашэ′тнік.

РАШНЯ′К (рошня′к) *м.* кабан *(гадовага ўзросту)*. От рошняка′ вукормілі, вон ужэ і ўставаць скоро не будзе, такі гладкі (Стадолічы, Лельч.).

РАШО′ТНІК *м., бат., тое, што* рашацю′к. У рашо′тніка дзірачкі, як бы хто гваздом парабіў (Беразнякі, Петр.); Ты бярэш рашо′тнікі? А я іх ні вельмі люблю (Даманавічы, Калінк.). *Параўн.* рашо′цік, рашэ′тнік.

РАШО′ЦІК *м., бат., тое, што* рашацю′к. Рашо′цікі— цёмна-жоўтыя, на высакаватай ножцы, з дзірачкамі пад шапкай (Каравацічы, Рэч.). *Параўн.* рашо′тнік, рашэ′тнік.

РАШЧЫ′НА *ж., толькі адз.* рошчына. Рашчы′на патходжвае, кісне (Палессе, Чач.); Пагана якая-то рашчы′на, бо хлеб не пудышоў (Калінічы, Нар.). *Параўн.* ро′счынок.

РАШЫ′ЦЬ *зак.* зрасходаваць. Сахар той ты рашы′ла? (Забалоцце, Раг.).

РАШЭ′ТНІК *м., бат., тое, што* рашацю′к. Рашэ′тнік падобны на маслюк, жоўтага цвету, у нізінах расцець (Забалацце, Б.-Каш.); З рашэ′тнікамі булён добра варыць (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* рашо′тнік, рашо′цік.

**РАШЭ′ЎКА** *ж., тое, што* расшы′ўка II. Сільно кра-

сіву рашэ′ўку ты сплела (Будкі, Нар.); Рашэўку ўшывалі ў падушкі, у настольніцы (Ліпляны, Лельч.+М. Аўцюкі, Калінк.; Махнавічы, Маз.). *Параўн.* ро′сшэўка.

РАШЭ′ЦІНЫ *толькі мн.* азярод. Лён расстаўляем на рашэ′ціны (Ламавічы, Акц.).

РАЯВА′ЦЬ *незак.* жыць *(у раскошы)*. Ён не жыве, а раю′е (Паганцы, Светл.); Шарынцы раю′юць. У іх усе добрае кругом, і поля багато, і лесу, сенакосу колькі хочэш (Дзвіжкі, Ельск.).

РАЯЎНЯ′ *ж., тое, што* раеўка. А мая раяўня′ з бяросты (Багданавічы, Карм.); Раяўня′ вісіць у кладоўцы (Неглюбка, Ветк. + Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* рэ′ўня.

РВА′ННЕ *н., зборн.* лахманы. Не дзеўка, а агонь, усё на ёй леціць, ні аднаго плаццяя немашака цэлаго, адно рва′нне (Агароднікі, Калінк.).

РЖА *ж., толькі адз.* вада *(ржавая)*. Ржа на балоце, а не вада (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* руда′.

РЖАВЕ′Ц *м., толькі адз., бат.* ржаўнік. Вельмо багато ржаўцу′ расце по лёну (Падворак, Лельч.).

РЖА′НІК *м.* хлеб. *(жытні)*. Купіш дзве булкі ржа′ніка (Цешкаў, Нар.).

РЖО′ЎНІК *м., толькі адз.* ржышча. Плоха іцці, колецца ржо′ўнік (Гармавічы, Жлоб.); Як трава е на ржо′ўніку, дык тавар пасуць (Баравікі, Светл.).

РЗАЦЬ *незак., груб.* рагатаць. А і рза′лі ж мы тады ўдваіх (Палессе, Чач.); Хопіць рзаць табе тут, ідзі на вуліцу (Зарэчча, Браг.).

РО′БАК *м., толькі адз.* тканіна *(стракатая)*. Із порцяка шылі сорочкі, а із ро′бака саян (Бялёў, Жытк.).

РО′БЛЯНКА *ж., толькі адз., кул.* ражанка. Кіпячонае малако цёплае ўліваюць у смятану і атрымліваецца ро′блянка (Дубраўка, Добр.).

РО′ВАР (ро′вер) *м.* веласіпед. Ро′вар стаў на месца, а то я табе накатаюсь (Грабаўка, Добр.); Цепер жытка зусім другая прыйшла, у каждой хаці ро′вер (Бярэзнікі, Жытк.); Сядай на ро′вер, шыбчэй заедзеш (Саўгасная, Б.-Каш.).

РО′ДЖАНЫ *дзеепрым.* народжаны. Я й ро′джаны ні тут, а далёка (Салаўёў, Б.-Каш.+Лабыроўка, Карм.).

РО′ДЗІЧ *м.* сваяк. На лета к нам ро′дзіч прыязжае ўсягда (Краўцоўка, Гом.+Марозавічы, Б.-Каш.; Хізы, Ветк.).

РО′ДЗІЧКА *ж.* сваячка. Вунь, бачыце, ро′дзічка мая ідзе (Піркі, Браг.).

РО′ДЗІЧЫ *толькі мн., рэл., тое, што* радзі′целі. На ро′дзічах усіх умёршых памінаюць (Неглюбка, Ветк.).

РО′ЖА I *ж., толькі адз., мед.* хвароба. Ета ж ро′жа як зеркала сядзіць: калючая, балючая, свярбучая, пякучая (Хізы, Ветк.); Ад ро′жы цела становіцца красным, цвердым, як брус (Бабовічы, Гом.+Дзям'янкі, Дубраўка, Добр.; Забалоцце, Раг.; Клясаў, Петр.; Марозавічы, Б.-Каш.; М. Аўцюкі, Калінк.; Неглюбка, Ветк.; Піркі, Браг.; Халочча, Чач.; Холмеч, Рэч.; Хутар, Светл.).

РО′ЖА II *ж., бат.* мальва. Сёлета вымерзла ро′жа, мароз яе застудзіў, а цвяты як тарэлкі ў яе (Марозавічы, Б.-Каш.); Пад вакном багата кустоў ро′жы насадзіла (Азяраны, Раг.+Зарэчча, Браг.; Мілашэвічы, Лельч.; Халочча, Чач.).

РО′ЖАН *м.* ражон. Ро′жан доўгі, ды тонкі (К. Балсуны, Ветк.).

РО′ЖАНІЦА *ж., тое, што* радзі′ха. Паедам забіраць сваю ро′жаніцу (Холмеч, Рэч.).

РО′ЖКІ *толькі мн.* 1. *тое, што* рага′ч *у 3 знач.* Мо дасі сваіх ро′жак, ето ж хочу трохі моткаў наматаць да мо якую губку хоць на мешкі вутку (Юравічы, Калінк.); 2. *тое, што* рага′ч *у 2 знач.* Вытры свае ро′жкі, як мыць не хочыш (Лабыроўка, Карм.).

РО′ЗДЗЕЛКА *ж.* карніз *(у грубцы)*. Думалі коміна цяпер зачаць робіць, а і ро′здзелкі не кончылі (Людзяневічы, Жытк.). *Парайн.* ро′спушка.

РО′ЗКА *ж.* розга. Адламіў ад бярозкі тры ро′зкі, сцебануў коніка пад ножкі (Касцюкоўка, Гом.+Усох. Буда, Добр.; Шуты, Ельск.).

РО′ЛКА *ж.* пляцоўка. Ро′лка була ля азяроду, сушылі снапы там (Ламавічы, Акц.).

РО′НГЕЛЬ *м.* гаршчок *(вялікі)*. Тані вялікі ро′нгель купіла на базары (Палаўкі, Ельск.).

РО′НДЛІК *м.* кубак *(для малака)*. Налі малака ў ро′ндлік і занесі Сцепану (Крыўча, Браг.).

РО′СКА *ж., толькі адз., бат.* раска. Ро′ску сьвінні ядуць (Бабовічы, Гом.).

—РО′СКІДЗЬ *ж., с.-г.* разора *(паміж загонамі)*. Ро′скідзь зрабілі глыбокай (Багданавічы, Карм.).

РО′СЛІК *м., с.-г.* расток. Гарбузы добра прараслі, амаль усе зярняты з ро′слікамі (Сямёнаўка, Рэч.).

РО′СПУСКІ *толькі мн., тое, што* разва′лы. Палажыў дзерава на ро′спускі, аж конь чуць цягне (Дубраўка, Добр.); Узяў бы ро′спускі, а то і сена німа чым падвезці (Глыбаў, Рэч.); Учора я ета лес на ро′спусках прывозіла, дак мяне дома ня було (Дубраўка, Добр.+Кароткавічы, Жлоб.; Ухоў, Ветк.).

РО′СПУШКА *ж., тое, што* ро′здзелка. Груба канчаецца ро′спушкою, ето звужэнне або расшырэнне (Людзяневічы, Жытк.).

РО′СТАНІ *толькі мн., тое, што* разві′лка *ў 1 знач.* Вулі воду на ро′стані, як дзіця спугалосе (Аравічы, Хойн.+Баравікі, Светл.; Насовічы, Добр.). *Параўн.* раскрэ′сы, растанцы′, растанькі′, расто′кі.

РО′СЧЫНОК *м., толькі адз., кул., тое, што* рашчы′на. Ето цесто называецца ро′счынок (Аравічы, Хойн.).

РО′СШЭЎКА *ж., тое, што* расшы′ўка II. У мене настольніца хоць старавата, але з ро′сшэўкай (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* рашэ′ўка.

РО′ССЫП *м.* плыт *(неўпарадкаваны)*. Аж бачым: па рацэ плывуць ро′ссыпы (Баравікі, Светл.).

РОСЬ *ж., толькі адз.* імжа. Сёдні ўвесь дзень імжыць рось (Гарадзец, Раг.).

РО′ЎБА *аг., неадабр.* плакса. От ро′ўба, распусціла ўжэ сваё нюні (Каменка, Маз.).

РО′ЎКА *ж.* жэрдка *(роўная)*. Глянь, ро′ўка якая валяецца (Аравічы, Хойн.); Лён расставілі на ро′ўкі (Ламавічы, Акц.).

РО′ЎНА *прысл.* адначасова. Так можа сюды ро′ўна як вы, так і яны прыедуць (Піркі, Браг.).

РО′ХАЦЬ *незак.* рохкаць. Унь свіння на гародзе ро′хая, выгані хутчэй (Усох. Буда, Добр.).

РО′ХЛЯ *ж., зневаж., тое, што* рапу′ха *ў 2 знач.* Ты, мабуць, ні муешся ніколі, закарэла ўся, гідко з табою стаяць, ро′хля ты (Каменка, Маз.). *Параўн.* рэ′пша, рэ′ра.

РО′ХМАНЫ *прым.* хваравіты. Карова ж ро′хманая, куды я яе паганю. Здаровую карову выгань, яна аж скача, а ета вялая, во глядзіце (Хізы, Ветк.).

РО′ЦІК *м., памянш., перан.* адтуліна *(у лямпе для кнота)*. У каўпачку рамкі е ро′цік, кудой кнот выскаквае (Дубраўка, Добр.).

РУБ I *м.* рубель. Хваця сена, ціпер кладзі наверх

руб і прывяжы яго ямчэй (Шохаўка, Чач.). *Параўн.* ру′-бе′ль (ру′баль) 1, рублі′на.

РУБ II *м.* 1. коптур. Я набрала ягод поўны сёўнік з руба′мі (Бярэзнікі, Жытк.); 2. рабро *(дошкі)*. Як на руб дошку паставіў, дык ніправільно (Багуцічы, Ельск.).

РУБ III *м.* рубель *(грошы)*. Астаўся ў мяне ўсяго руб (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* рублёўка.

РУ′БАНЕЦ *м.* палена. Як вазьму ру′банец, як атхажу па спіне (Неглюбка, Ветк.).

РУБА′ЦЬ *незак.* сячы. А вон Мішка Мікітаў дужа спорна руба′я (Хізы, Ветк.).

РУ′БЕ′ЛЬ (ру′баль) *м.* 1. *тое, што* руб I. Рубе′ль у нас падоўжны, а ў другіх паперочны (Аравічы, Хойн.); Прыехалі за сенам, а рубе′ль забылі ўзяць, дык маленькі возік прывезлі, бо не было чым увязаць воз (Заспа, Рэч.); А нічога, рублё′м прыцісні́м, і добра будзе (Гарадзец, Раг.); Дай мне ру′бель і ўвяжы воз вяроўкамі (Піркі, Браг.); Хіба ж табе дзеці ру′баль паднімуць? (Марозавічы, Б.-Каш.+Антонаў, Ельск.; Баравікі, Светл.; Бялёў, Жытк.; Грушаўка, Нар.; Забалоцце, Раг.; Камаровічы, Петр.; Пучын, Браг.; Сівенка, Ветк.; Тульгавічы, Хойн.; Усох. Буда, Добр.; Хізы, Ветк.; Целяшы, Гом.). *Параўн.* рублі′на; 2. качалка *(рубчастая для пракатвання бялізны)*. Вазьмі ру′бель, качалку і пакачай рушнікі (Капань, Рэч.).

РУБЕ′Ц *м.* 1. след *(ад раны)*. Як прыйшоў з вайны, дык усё цела ў рубца′х было (Баравікі, Светл.+М. Аўцюкі, Калінк.; Халочча, Чач.); 2. шво. У цябе нейкі рубе′ц нехарошы (Хізы, Ветк.); Глядзі ж, як будзіш кроіць, дык астаў на рубцы′ (Марозавічы, Б.-Каш.+Баравікі, Светл.; В. Поле, Петр.; Завайць, Нар.; Ліпляны, Лельч.; М. Аўцюкі, Калінк.); 3. круг *(на рагах у каровы)*. Скольні рубцо′ў у каровы, столькі гадоў жыве (Хізы, Ветк.+Бабовічы, Гом.; Дзям'янкі, Добр.).

РУБІ′НА *ж.* кавалак *(тканіны)*. Пасля вайны не было рубі′ны, што б можна было пашыць сарочку (Заспа, Рэч.); Некалькі рубі′н посцілак выткалі (Бялёў, Жытк.).

РУБЛЁЎКА *ж., тое, што* руб III. Мар'е, пазыч мне рублёўку (Дарашэвічы, Петр.).

РУБЛІ′НА *ж., тое, што* руб I. Пакладзі рублі′ну на воз (Паганцы, Светл.). *Параўн.* ру′бе′ль (ру′баль) I.

РУБЧА′К I *м.* выступ. У дзівіны лісточкі такіе про-

доўговаценькіе і з рубчака′мі, по поплувам расце (Аравічы, Хойн.).

РУБЧА′К II *м.* мяшок. У рубчаку′ лубіну прынесла (Бялёў, Жытк.).

РУГА′ННЕ *н., толькі адз.* лаянка, сварка. Што там за руга′нне такое? (Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* ругня′.

РУГНЯ′ *ж., толькі адз., тое, што* руга′нне. Ругня′ была на ўсю вуліцу (Баравікі, Светл.); І каму трэба гэта ваша ругня′? (Кароткавічы, Жлоб.); Такой ругні′ я яшчэ не чула (Церахоўка, Добр.).

РУДА′ *ж., толькі адз., тое, што* ржа. Раней моткі красілі рудо′ю (Зарэчча, Браг.).

РУДАЦІ′НЕ *н., толькі адз.* рабацінне. Увесь твар у рудаці′не (М. Аўцюкі, Калінк.).

РУДЗЕ′ЦЬ *незак.* рыжэць, забруджвацца. Уціральнікі трэба ўжэ муць, а то рудзе′юць (Даманавічы, Калінк.).

РУ′ДЗІК *м.* чалавек *(рыжавалосы).* Ру′дзік сённі кароў пасе (Дарашэвічы, Петр.).

РУДО′Й *прым.* муругі *(пра масць жывёлы).* Быў у мяне сабака, добры, рудо′й (Хізы, Ветк.). *Параўн.* руды′ *ў 2 знач.*

РУДЫ′ *прым.* 1. *тое, што* ра′бы *ў 3 знач.* У нас «у вяснушках» рэдка кажуць, а ўсё руды′мі зовуць (М. Аўцюкі, Калінк.); 2. *тое, што* рудо′й. Руды′ сабака крэпка злы (Хізы, Ветк.); 3. парыжэлы. Памыла сарочку ў канаве, дык яна руда′я (Халочча, Чач.); 4. заржавелы. Не, карыта ўжо негодна, бачыш, якое дно рудо′е, ржа з'ела (М. Аўцюкі, Калінк.).

РУЖАВЕ′Ц *м., бат.* рыжык. Ніколі ні набярэш удоваль ружаўцо′ў, і дзе яны растуць? (Даманавічы, Калінк.).

РУІ′НА *ж.* гора, бяда. Руі′на ў іх у хаце (Неглюбка, Ветк.).

РУКАВО′К *м., перан., памянш. да* рука′ў *у 2 знач.* Яблыкі завязваем у рукаво′к і ложым у сок кіснуць (Баравікі, Светл.). *Параўн.* рука′ўчык. /*тое, што* рагаві′к. Рукаво′к я рабіла з некалькіх рэдзяў марлі (Любань, Б.-Каш.).

РУКА′ТЫ *прым., перан.* нячысты *(на руку).* Калі б ён не быў рука′ты, дык яго б не знялі з кладаўшчыка

(Заспа, Рэч.+Гарадзец, Раг.; Дубраўка, Добр.; Каменка, Маз.; Прудок, Калінк.).

РУКА′Ў *м.* 1. рукаў. Адзін дзелая кароткі рукавы′ ў плацці, а другі длінныя — як каму наравіцца (Хізы, Ветк.); 2. *перан.* мяшочак *(палатняны)*. Вазьмі рука′ў на паліцы да прынясі з лаўкі сахару (Дуброва, Рэч.); 3. *перан.* галінка *(з кветкамі)*. Ну й добра сёлята яблані цвітуць — рукава′мі (Саўгасная, Б.-Каш.).

РУКА′ЎЧЫК *м., тое, што* рукаво′к. Паглядзі, там за печчу ў рука′ўчыку ёсць зернята (Амельна, Раг.+Ч. Паляна, Б.-Каш.).

РУКА′ЦЦА *незак.* вітацца *(за руку)*. Ходзе сабе і рука′ецца з людзьмі (Неглюбка, Ветк.).

РУЛЕ′Т *м.* рулетка. Дай мой руле′т (Дзякавічы, Жытк.).

РУЛІ′ *толькі мн., кул.* цура. Вось сённі я наелася з ахвоты, дзеці зрабілі рулі′ (Дзвіжкі, Ельск.); Рулі′ смашныя ў жаркую пагоду (Любань, Б.-Каш.); Калісь рулі′ за маліну ела (Заспа, Рэч.+Амелькаўшчына, Хойн.; Асарэвічы, Браг.; Горваль, Рэч.; Грушаўка, Нар.; Забалоцце, Раг.; Зарэчча, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; Навінкі, Калінк.; Паганцы, Светл.; Піркі, Браг.; Холмеч, Рэч.; Сяўкі, Лоеўск.).

РУЛЯВА′ЦЬ *незак.* кіраваць. Да рулю′й ты правільна, куды паехаў (Хізы, Ветк.).

РУМ I *м.* месца *(вязання плытоў)*. Рум — место, дзе платы вяжуць (Ручаёўка, Лоеўск.); Рум поўнасцю запоўнены бярвеннямі (Багданавічы, Карм.+Людзяневічы, Жытк.).

РУМ II *м., толькі адз.* сена *(першага ўкосу)*. Ох, і дарагі ж рум, да шчэ як за пагоду ўбярэш яго (Калінін, Хойн.); Цяпер бы накасіць ру′му. Во б каровы пакрасаваліся (Дубраўка, Добр.).

РУМАВЫ′ *прым. да* рум II. Румаво′е сена — самае лучшае сена (Усох. Буда, Добр.).

РУ′МЗА (ры′мза) *аг.* плакса. Ну і ру′мза ты, сынок, не будзь такім (Саўгасная, Б.-Каш.); Аленка такая ры′мза, што не дай бог (Гарадзец, Раг.).

РУ′МЗАННЕ *н., толькі адз.* плач. Мне гэтае твае ру′мзанне ў пячонках сядзіць (Багданавічы, Карм.).

РУ′МЗАЦЬ *незак.* плакаць, раўці. Перастань ру′мзаць, слухаць моташна (Буйнавічы, Маз.); Чаго ты ру′мзаеш, хіба ён цябе набіў? (Запясочнае, Маз.); Ну і дзі-

цёнак, такі ўжэ ўрэдны — і ру′мзае, і ру′мзае, ні мінуткі ні пасядзіць (Ч. Маяк, Гом.). *Параўн.* румзі′каць, ры′мзаць, рэў′ці *ў 1 знач.*

РУМЗІ′КАЦЬ *незак., тое, што* ру′мзаць. Мая Галя хворая, дык усё румзі′кае і румзі′кае (Загалле, Хойн.). *Параўн.* ры′мзаць, рэ′ўці *ў 1 знач.*

РУМЫ′НКІ (румі′нкі) *толькі мн.* чаравікі *ў І знач. (жаночыя).* Ціперака ўжо німа моды насіць румы′нкі (Залессе, Чач.); Чаравікі такія калісьнія, а ціпер ужэ румі′нкі (Барталамееўка, Ветк.+Рафалаў, Браг.).

РУМЯ′НАК *м., бат.* румянка. Румя′нак расце ў гародзе, дробненькі такі (Багуцічы, Ельск.). *Параўн.* румя′нец.

РУМЯ′НЕЦ *м., бат., тое, што* румя′нак. Румя′нец калісь пад кустамі рос, розавымі цветамі ён цвіце (Ручаёўка, Лоеўск.).

РУН *м.* руно. Знялі рун з авечкі. Рун дала добры (Хізы, Ветк.).

РУНДУ′К *м.* посуд *(для збожжа, мукі).* Бальшушчая дзежка для мукі з дуба рунду′к называецца (Дубраўка, Добр.); У нас здаровы рунду′к стаяў, пудоў на підзісят (Р. Бурыцкая, Лоеўск.).

РУ′НКА *ж.* латак *(млынавы).* Не бойся, саджай руку ў ру′нку, вуграбай хуччэй (Юравічы, Калінк.).

РУ′ПІЦЦА *незак., безас.* карцець, хацецца. Яму ўжэ й ру′піцца ў сад лезць (Дубраўка, Добр.); Ей так і ру′піцца зрабіць дрэннае (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* ру′піць *у 1 знач.*

РУ′ПІЦЬ *незак., безас.* 1. *тое, што* ру′піцца. Мне ру′піць пайсці ў грыбы (Забалоцце, Раг.); 2. турбаваць, трывожыць. Пайду дам карові, не будзе хоць ру′піць (Палессе, Чач.).

РУСА′ЛЬНЫ: руса′льная нядзеля *рэл.* тыдзень *(пасля сёмухі).* Няльзя спаць удзень на руса′льную нядзелю, а то дрова будзеш вазіць русалкам (Ламавічы, Акц.+Юравічы, Калінк.).

РУ′ХАЦЬ *незак.* рохкаць. Гладзь я, дак іна будзя ліжаць і ру′хаць (Забалаццe, Б.-Каш.); Свіння твая ру′хае аж на ўсю вуліцу (Стаўбун, Ветк.+Бабовічы, Гом.; Багданавічы, Карм.; Хізы, Ветк.). *Параўн.* ру′хкаць, рухце′ць.

РУ′ХКАЦЬ *незак., тое, што* ру′хаць. А вона бегае по двору, ру′хкае, пойду загоню (Бялёў, Жытк.); Свіння

ру′хкае, як пачэшаш, то і бок падставіць і слухаць будзе (Углы, Браг.+Бабічы, Чач.; Засінцы, Ельск.). *Парайн.* рухце′ць.

РУ′ХНУЦЬ *зак., тое, што* раскваʼсіцца. Ру′хнула дарога, нельзя праехаць ні на санях, ні на калёсах (Хізы, Ветк.). *Парайн.* расхля′бнуць.

РУХЦЕ′ЦЬ *незак., тое, што* ру′хаць. Раней у нас казалі, што свіння рухці′ць (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* ру′хкаць.

РУЧА′ЙКА *ж.* 1. верацяно *(пражы)*. Ото я знаю, хадзяйка, за вечор напрала тры руча′йкі (Грушаўка, Нар.); А я думаю, што шчэ сённі одну руча′йку напраду (Замошша, Жытк.); І не знаю, Мар'я, сколькі табе руча′ек трэба на посцілку (Аравічы, Хойн.+Багданавічы, Карм.; Багуцічы, Ельск.; Баравікі, Светл.; Будкі, Нар.; Быч, Карм.; Бярэзнікі, Жытк.; Кароткавічы, Жлоб.; Ліпляны, Лельч.; Марозавічы, Б.-Каш.; Сялюцічы, Петр.; Тонеж, Лельч.); 2. жменя *(ільну)*. Спрытная дзеўка ў Ганны: руча′йка за руча′йкай — і цэлы сноп (Аравічы, Хойн.); Атрапала дваццаць руча′як лёну (Пясчанікі, Жытк.). *Парайн.* ру′чка III.

РУ′ЧКА I *ж.* 1. дзяржанне. У маёй брытве ру′чка кароткая, упала яна з брыжка, і адляцеў кусочак ру′чкі (Барталамееўка, Ветк.); Ру′чка ў граблях плахая, заміняць трэба (Хізы, Ветк.); 2. планка *(да якой прымацоўваюцца драбіны воза)*. Грузіў лес, дак усе ру′чкі паабламаў (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* ручы′ца I.

РУ′ЧКА II *ж., тое, што* рад *у 1 знач.* Я касіў па тры-чатыры ру′чкі, а цяпер толькі дзве (Багуцічы, Ельск.); Я прайшоў адну ру′чку (Астрагляды, Браг.+Аравічы, Пагоннае, Хойн.).

РУ′ЧКА III *ж., тое, што* руча′йка *ў 2 знач.* Мне асталось часаць дзве ру′чкі (Пагоннае, Хойн.).

РУ′ЧНІК *м.* валёк *(вясла)*. Ру′чнік у весле паламаўсе, нада весною новае дзелаць (Усох. Буда, Добр.).

РУЧНЫ′ *прым.* здатны *(да працы)*. Ён вельмо ручны′, усе ўмее робіць (Астражанна, Лельч.).

РУША′ЦЬ *незак.* змяншацца *(пра месяц)*. Калі месяц руша′е, то пагода мяняецца (Аравічы, Хойн.).

РУШНІ′ЦА *ж.* стрэльба *(паляўнічая)*. Як прышоў дід з полэвання, дык не повесіў рушні′цу на место, так і вісыт (Грушаўка, Нар.); Прадаў рушні′цу. Мо колі б на охоту пошоў (Мілашэвічы, Лельч.+Дзёрнавічы, Нар.).

РУЯ′ *ж.* чарада *(сабак, ваўкоў)*. У піліпаўку на Яўхіма напала руя′ сабак (Запясочча, Жытк.); На полі бегла руя′ ваўкоў (Тульгавічы, Хойн.).

РЫБА′ЛКА *ж., заал.* чайка. Рыба′лкі лятаюць над вадою і рыбу хватаюць (Аравічы, Хойн.).

РЫДЗЕ′ЛЬ *м.* рыдлёўка. Вот табе і на: раз капанула і рыдзе′ль зламаўся (Н. Дуброва, Акц.); Дзе то наш рыдзе′ль? (Харомцы, Акц.).

РЫ′ДКА *ж., заал.* мурашка. Вот ры′дка джыганула (Р. Антонаўская, Калінк.).

РЫЖО′ЎКА *ж., рыб., тое, што* ра′жаўка. Цепер уночы пойдам з рыжо′ўкаю рыбу ловіць (Вароніна, Жытк.); Поехалі за старыцу, рыжо′ўкай ловіцьмем рыбу (Жахавічы, Маз.). *Парайн.* ражо′ўка.

РЫ′ЖЫЦА *ж., толькі адз., бат.* асака. Ры′жыца сільно яна цверда, яе худоба не ядзе (Аравічы, Хойн.).

РЫ′ЗА *ж.* адзежына *(зношаная)*. Нейка ры′за на плечах (Задуб'е, Рэч.); Куды ты одзееш ету ры′зу, ена ўжэ разлезласа (Астражанка, Лельч.); Калі ты скінеш тые ры′зы? (Углы, Ельск.); Во шчэ ходзіць, ры′замі матляе (Дубраўка, Добр.).

РЫ′ЗЗЕ (ры′ззя) *н., толькі адз., зборн.* рыззё. У нас цэлы чулан ры′ззя, трэба калі каравашніку здаць (Дубраўка, Добр.); Нацэпіш тое ры′ззя дай пашоў. Людзей бы пасаромеўся (Аляксандраўка, Калінк. + Бялёў, Жытк.; Веляцін, Хойн.; Дзям'янкі, Добр.; Пакалюбічы Гом.; Хізы, Ветк.; Хутар, Светл.). *Парайн.* рымо′нне.

РЫЗІ′НАЎКА *ж., заал.* піяўка. Рызі′навак у балоці багата (Дубраўка, Добр.).

РЫЗІ′НЫ *толькі мн.* галёшы. Рызі′ны насілі з буркамі, цяпер жа галошы кажуць, а раней — рызі′ны (Р. Марымонава, Гом.); А мне тыя рызі′ны малыя будуць на буркі (Ч. Буда, Добр.); Рызі′ны надзела, дык хаджу спакойна (Нісімкавічы, Чач.+Барталамееўка, Ветк.; Быч. Карм.; Мормаль, Жлоб.; Слабодка, Хізы, Ветк.).

РЫК *м., заал.* вол *(вадзяны)*. Рык усё ўрэмя ў балотах. На вадзянога вала гаворацъ рык (Дубраўка, Добр.).

РЫ′КАЦЬ *незак.* рыкаць. Вольго, ідзі даі карову, бо ўжэ даўно ры′кае (Бялёў, Жытк.); Наша карова чагосьці ры′кае (Хізы, Ветк.+Багуцічы, Ельск.; Дарашэвічы, Петр.; М. Аўцюкі, Калінк.).

РЫ′ЛЬНІК *м.* судна *(начное)*. Гэта ж малое дзіця, яму трэба заўсёды ры′льнік (К. Балсуны, Ветк.).

РЫ′МЗАЦЬ *незак., тое, што* ру′мзаць. Перастань ры′мзаць (Р. Антонаўская, Калінк.). *Параўн.* румзі′каць, рэўці *ў 1 знач.*

РЫМО′ННЕ *н., толькі адз., зборн., тое, што* ры′ззе (ры′ззя). Скінь ба ты тое рымо′нне, хіба німа чаго адзець другога? (Р. Каменева, Лоеўск.).

РЫНКА *ж., кух.* міска *(гліняная, драўляная)*. Не, у нас не кажуць міска, у нас ры′нка (Баравікі, Светл.); У ры′нку налівай ды хай умесці хлябаюць (Старая Рудня, Жлоб.); Мае дзеці ўсягда самі мыюць ры′нкі (Шырокае, Б.-Каш.+Асінаўка, Чач.; Барталамееўка, Ветк.; Жгунь, Добр.; Заспа, Рэч.; Зладзін, Маз.; Капань, Рэч.; Любань, Б.-Каш.; Меркулавічы, Чач.; Навасёлкі, Петр.; Саўгасная, Б.-Каш.; Славань, Светл.; Целяшы, Чкалава, Гом.).

РЫ′НУЦЦА *зак.* 1. кінуцца, рушыць. А яна як ры′нулась у сенцы (Шылавічы, Б.-Каш.); 2. упасці. Як ры′нулася далоў, чуць устала (Ухаў, Ветк.).

РЫ′ПНУЦЬ *зак., перан.* пайсці *(хутка)*. Мы з свёкрам як ры′пнулі, дык больш за вярсту праскочылі (Сведскае, Рэч.).

РЫСЁЎ *прым.* рысіны. Але ж тады і бачылі рысёў след (Багуцічы, Ельск.).

РЫ′ХВА *ж., спец.* рэхва. Ехаў, ехаў, а ступіца рассохлась, дак ры′хва і спала (Быч, Карм.).

РЫШТА′К *м., буд.* рыштаванне. Онь лезь на той рышта′к (Буда Сафіеўка, Лельч.). *Параўн.* рышто′ўка, рышту′нак.

РЫШТО′ЎКА *ж., буд., тое, што* рышта′к. Без рышто′ўкі не зробіш ні аднаго дома (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* рышту′нак.

РЫШТУ′НАК *м., буд., тое, што* рышта′к. Сённі зрабілі рышту′нак, а заўтра будуць крыць крышу (Багуцічы, Ельск.); Бач ты, забраўся кот на рышту′нак і грэіцца на сонцы (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* рышто′ўка.

РЭ′БРЫ *толькі мн., перан.* басаножкі. Ці я ж етыя рэ′бры буду насіць? (Асінаўка, Чач.).

РЭ′ГА *ж., рыб.* прылада *(рыбалоўная)*. Аснову рэ′гі робяць з дзерава, а потым нацягваюць сетку (Засінцы, Ельск.); Воны доўго ловілі рыбу рэ′гой (Скароднае, Ельск.).

РЭДЗЬ *ж.* столка. У дзве рэ́дзі складзі і працадзі, будзе чыстая вада (Петравічы, Раг.).

РЭДКАСЛО́ЙКА *ж.* драўніна *(рэдкаслойная)*. У рэдкасло́йкі кольцы большыя, і пілка добра ходзіць (Хізы, Ветк.).

РЭ́ДКІ: рэ́дкая бульба *кул.* суп *(бульбяны)*. Рэ́дкую бульбу мо салам зажарыць? (Старая Рудня, Жлоб.).

РЭ́ДЧЫК *м.* марля. Занавеска да печы з рэ́дчыка (Слабада, Ветк.). /*тое, што* ра́нчык. У мяне рэ́дчык е, хадзі дам, палец завяжаш (Слабада, Ветк.).

РЭ́ЖА *ж., тое, што* ра́жа II. Магілку летась рэ́жай абклалі (Лучыцы, Петр.). *Параўн.* рэ́жык.

РЭ́ЖЫК *м., тое, што* ра́жа II. Бяз рэ́жыка ўсё дзела на смарк пойдзе (Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* рэ́жа.

РЭЗ I *м.* 1. рэз. Каб разрэзаць калоду на тры часткі, робяць два рэ́зы (Шуты, Ельск.); 2. месца *(распілоўкі)*. Рэз у нас на ўскрайку вёскі (Багданавічы, Карм.); На рэ́зе навалены дровы (Баравікі, Светл.). *Параўн.* рэзь II.

РЭЗ II *м.* дарога *(за прысядзібным полем)*. Машына чахкала рэ́зам (Маркавічы, Гом.).

РЭ́ЗАНКА I *ж.* хустка *(паўшарсцяная)*. А ето ў мяне рэ́занка, я прыбіраюса ў яе (Дарашэвічы, Петр.); Ах, мая дачка, я купіла харошую рэ́занку і надзену яе (Антонаў, Ельск.); Раньшэ ўсе рэ́занкі насілі, а цепер молодзеж не хочэ, усе шоўкове носіць (Аравічы, Хойн.+ Багуцічы, Ельск.; Замошша, Лельч.; Карма, Ельск.; Махнавічы, Маз.; Славань, Светл.).

РЭ́ЗАНКА II *ж.* бульба *(рэзаная, насенная)*. Вазьмі рэ́занку да ідзі сеяць (Зарэчча, Браг.).

РЭ́ЗАЦЬ *незак.* 1. рэзаць. Тваім нажом хлеб толькі і рэ́заць (Кароткавічы, Жлоб.); 2. пілаваць. Бацька з братам рэ́жа дровы (Забалоцце, Раг.); 3. забіваць. А як калі кажуць: адзін раз рэ́заць свінню, а другі кажа калоць (Багданавічы, Карм.); 4. *груб.* есці *(многа)*. Рэ́заў, рэ́заў і ўсё мала (Бялёў, Жытк.); 5. *перан.* падмываць *(бераг)*. Ой, як вада рэ́жа кручу, прама на вачах (Хізы, Ветк.); 6. *перан.* папракаць. Свякруха рэ́жа ноч, чаго ў траву не пашла (Стаўбун, Ветк.).

РЭ́ЗКА I *ж., толькі адз., с.-г.* сечка. І смашна замешана рэ́зка, а яна не есць (Маркавічы, Гом.); Бувала, і коням рэзалі рэ́зку, калі недастатак сена (Хізы, Ветк.);

Рэ′зку замешала, а то целя карміць трэба (М. Аўцюкі, Калінк.+Бабовічы, Гом.; Баравікі, Светл.; Бобрыкі, Петр.; Дземяхі, Рэч.; Дубраўка, Добр.; Забалацце, Раг.; Макарычы, Петр.; Марозавічы, Б.-Каш.; Холмеч, Рэч.). *Параўн.* рэзь 1.

РЭ′ЗКА II *ж.* палоска *(поля)*. У Прыстоі рэ′зка не сеяна. У нас не было палос, былі рэ′зкі (Забалацце, Раг.).

РЭ′ЗНІК I *м., толькі адз., бат., тое, што* раза′к 1. Рэ′знік калючы, сочны, як столетнік, яго граблямі сцягваюць (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* раза′чка I.

РЭ′ЗНІК II *м.* мяснік. Рэ′знік прыйдзе забіць кабана. Рэ′знік зарэжа і моліцца богу, бо ета грэх (Холмеч, Рэч.).

РЭ′ЗНІЦА *ж., с.-г.* сячкарня. Етых рэ′зніц пачці і няма (Дубраўка, Добр.).

РЭ′ЗНУЦЦА *зак.* стукнуцца, ударыцца. Во рэ′знуўся, аж кроў з носа пашла (Грушаўка, Нар.).

РЭЗЬ I *ж., толькі адз., с.-г., тое, што* рэ′зка 1. Чым коней карміць? Рэзь канчаецца (М. Аўцюкі, Калінк.); Насып рэ′зі ў відро (Стаўбун, Ветк.+Багданавічы, Карм.; Неглюбка, Ветк.; Палессе, Чач.).

РЭЗЬ II *ж., тое, што* рэз I *у 2 знач.* Пагледзі там на рэ′зі, можа ёсця сякера, прынясі сюды (Пярэдзелка, Лоеўск.).

РЭ′ЛЯ *ж.* гушкалка. Дзеці просяць на грушы рэ′лю пачапіць (Р. Антонаўская, Калінк.).

РЭ′ПАНКА *ж., с.-г.* гатунак *(бульбы, яблыкаў)*. Рэ′панка ні такая ўкусная, як жоўтая бульба (Зялёныя Лукі, Гом.); Цэ ў вас луччых яблок нэма, кроме рэ′панкі? (Грушаўка, Нар.).

РЭ′ПАНКІ *толькі мн.* цыпкі. Ад вады рэ′панкі на нагах, а чым іх вывесці? (Неглюбка, Ветк.).

РЭ′ПАНЫ *прым.* патрэсканы, шурпаты. Такі хлеб рэ′паны спекла, ні адной кулідкі роўнай нема (Савічы, Браг.). Картоплі ў етым годзе былі паганые, рэ′паные (Дарашэвічы, Петр.).

РЭ′ПАХ *м.* куча. Каля хаты насыпаны рэ′пах картоплі (Грушаўка, Нар.).

РЭ′ПАШНЫК *м., бат., тое, што* рапе′шнік. Да повірывайтэ ўжэ ві ў городе тый рэ′пашнык, пройты ныяк нэ можно (Грушаўка, Нар.).

РЭ′ПЕЙ *м., абрад.* галінка *(сасны, упрыгожаная*

*кветкамі).* Ужо панеслі рэ′пей к жаніху (Хвойнае, Хойн.).

РЭ′ПЕХ *м.* торба *(для кармлення каня).* Да вайны бацька як паедзе ў Гомель, паставіць каня, павесіць рэ′пех, а сам па лаўках ходзіць (Раманавічы, Гом.). *Парайн.* рэ′птух.

РЭ′ПСАМ *прысл.* напралом. Чаго ты ляціш на мяне рэ′псам, і дарогі няма табе другой? (Саўгасная, Б.-Каш.). *Парайн.* рэ′хма.

РЭ′ПТУХ *м., тое, што* рэ′пех. Будзіш ехаць, не забудзь узяць рэ′птух (Калінін, Хойн.); У рэ′птух сена каню пакладу (Дубраўка, Добр.); Колісь шылі рэ′птухі, каб карміць каня. Накладуць туды сена ці чаго, вось ета рэ′птух (Верасніца, Жытк.).

РЭ′ПУШКА *ж., заал.* пячкур. Пры цару голодоўка вельмі була, то пойдом і рэ′пушок наловім (Бялёў, Жытк.).

РЭ′ПЧАТКА *ж., бат.* гатунак *(цыбулі).* Рэ′пчатка — цыбуля, якую садзяць цыбулінамі (Казялужжа, Хойн.).

РЭ′ПША *ж., зневаж., тое, што* рапу′ха *ў 2 знач.* Рэ′пша ты, а не дзеўка (Грабава, Жытк.). *Парайн.* ро′хля, рэ′ра.

РЭ′РА *ж., зневаж., тое, што* рапу′ха *ў 2 знач.* От рэ′ра, усе ў яе каравае (Бярэзнікі, Жытк.). *Парайн.* ро′хля, рэ′пша.

РЭ′СМУС *м., спец.* грунтвага, ватэрпас. Рэ′смус трэба тады, калі ў дзвярах дзіркі прабіваюць, то для адзінаковага растаянія (Хізы, Ветк.); Вазьмі рэ′смус, адаб'ем лінію і парэжам лясіну (Дарашэвічы, Петр.+Забалацце, Раг.; Ч. Буда, Добр.; Людзяневічы, Жытк.).

РЭСО′РКА *ж.* павозка *(на рысорах).* Рэсо′ркі стаяць на колхозным дворы (Дарашэвічы, Петр.).

РЭ′ЎНЯ *ж., тое, што* раёўка. У нас пчол ловяць у рэ′ўню (Быч, Карм.). *Парайн.* раяўня′.

РЭ′ЎЦІ *незак.* 1. *тое, што* ру′мзаць. Яна рэ′ўла на печы ды там і заснула (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* румзі′каць, ры′мзаць; 2. спяваць *(басам).* Іван пачаў рэ′ўці, а тые ўсе падводзяць (Піркі, Браг.).

РЭ′ХМА *прысл., тое, што* рэ′псам. Другая карова рыкае і рэ′хма бяжыць з чарады (Баравікі, Светл.).

РЭ′ХНУЦЬ *зак.* стукнуць. Падышоў пад вакно ды як рэ′хне, усе шыбы і павылятали.